PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 11 (2026) ГОД XL БЕЛАСТОК 12 САКАВІКА 1995 г. ЦАНА 50 грошаў (5000 ст. зл.)



*Спевакі з Беластоцкага аддзела БГКТ падчас гала-канцэрта.*

## БЕЛАРУСКАЯ ПЕСНЯ — 95

У ФОТААБ'ЕКТЫВЕ СЯРГЕЯ ГРЫНЯВІЦКАГА



*Усе хацелі паціснуць руку прэм'еру В. Цімашэвічу.*



*Розныя ўражанні ўзнікалі ў беларускіх дыпламатаў.*



*Найлепшыя выканаўцы атрымалі ўзнагароды.*



*Беларуская песня жыць будзе! Дзеці з Нарвы.*

# МЫ ПРАЧЫТАЛІ

*Prezydent Białegostoku dr Andrzej Piotr Lussa wdał się w spór natury historycznej z autorką artykułu w „Rzeczypospolitej", przedstawiającą spór wokół budynku BTSK. W polemicznym zapale udowadniał dziennikarce oraz czytelnikom, że to nie Polacy krzywdzili Białorusinów lecz Białorusini Polaków. Udowadniał tym samym, że na decyzje prezydenta mają wpływ historyczne uprzedzenia. Poza tym wypominanie współobywatelom innej narodowości lub religii rzeczywistych czy też urojonych krzywd, wyrządzonych przez przodków robi dziś jak najgorsze wrażenie. A to nie bez przyczyny. Gdy się bowiem wsłuchamy w historyczne wywody polityków bałkańskich, to okaże się, że wszyscy oni mają powody, aby wymordować swoich sąsiadów. Czego zresztą próbują dokonać od paru wieków przy każdej nadarzającej się okazji. Jeśli więc prezydent Białegostoku, polemizując na przykład z poglądem, że Polacy przed wojną palili cerkwie, pisze, że car zamieniał na cerkwie kościoły, to jest to dyskusja na bałkańskim poziomie. Jeśli zaś prowadzi ją prezydent powołany przez Radę, która pochodzi z niewątpliwie demokratycznych wyborów, to na podstawie jego wypowiedzi ludzie z zewnątrz mają prawo sądzić o całym mieście.*

*(Kurier Poranny, nr 40)*

Пан Люса ёсць сынам беластоцкай вуліцы. Хаця прыехаў сюды недзе з цэнтральнай Польшчы, але думае як „kresowy rycerz" сямнаццатага стагоддзя.

* * *

*W polskiej polityce króluje utalentowana amatorszczyzna. Polityczni rozbitkowie wracają hurtem na ekrany telewizorów, mądrzą się w radiu, pozbawionymi talentów piórami obsyłają gazety. Brzuchate karzełki, jąkające się tyki ze skrywanym szaleństwem w oczach, sfrustrowani ministrowie jednego kwartału i nienawistnego oblicza prawią swe puste, przeraźliwe banały o demokracji, wolnym rynku i praworządności.*

*(Polityka, nr 7)*

* * *

*Новая хваля зацятага змагання з усім беларускім захоплівае нашу краіну. І дарма, што краіна гэта завецца Беларусь. З дня ў дзень беларускаму ж народу ўбіваецца ў галаву думка аб тым, што ў яго не павінна быць нічога беларускага — ні мовы, ні гісторыі, ні культуры. Амаль кожную раніцу па дзяржаўным радыё даюць слова каму-небудзь з ваяўнічых змагароў за „возрождение отечества" пад якім, вядома ж, разумеюць не Беларусь а „великую Россию" у рамках былога СССР. Ідэя аб'яднання з Расіяю зноў узнята над усімі нашымі праблемамі. Сёння ніводнаму цвярозаму палітыку ва ўсім свеце не магла б нават у страшным сне прысніцца думка аб аб'яднанні з краінаю, якая вядзе кровапралітую вайну са сваім народам і здзіўляе ўсё чалавецтва незвычайнай жорсткасцю, прымяняючы ў Чачні зброю, якая паўсюдна забароненая. Ці наш народ ужо забыў усё, колькі жыццяў маладых беларускіх хлопцаў каштавала вайна ў Афганістане? Ці хочуць сёння беларускія маці пасылаць сваіх сыноў у Чачню ваяваць за імперскія інтарэсы Расіі?*

*(Літаратура і мастацтва, н-р 7)*

21 лютага прэзідэнт Ельцын падчас візіту ў Менск сказаў: „Вместе с Белоруссю будем защищать СНД, Россию и Белоруссию". Узнікае такім чынам беларуская імперыя ад Уладзівастока да Брэста.

* * *

*Polityka rolna rządu chłopskiego Waldemara Pawlaka stworzyła tyle kanałów drenowania kieszeni miejskiego podatnika na rzecz wsi, że nie sposób będzie postawić na nich tamy. BGŻ otrzymał już od podatników ok. 16 bln złotych, co oznacza, że każdy z nich oddał chłopskiemu lobby prawie 800 tys. złotych. Rząd stworzył warunki opłacalności produkcji dla gospodarstw hodujących po kilka sztuk bydła i obsiewających 2—3 hektary ziemi. W rezultacie plony czterech podstawowych zbóż z jednego hektara wynoszą w Polsce 23,9 kwintala, podczas gdy we Francji — 63,7 kwintala, a w Niemczech — 49 kwintali. Polski rolnik jest w stanie wyżywić siedmiu swoich rodaków, holenderski ponad 21, francuski ponad 28, a amerykański — 63.*

*(Wprost, nr 8)*

* * *

*Źrodłem naszych kłopotów są nasze sukcesy. Politycy z miasta uważają nas za ciemnych chłopów, chcą zepchnąć PSL do zagrody, do gnoju — powiedział Waldemar Pawlak podczas IV Kongresu PSL.*

*(Gazeta Wyborcza, nr 43)*

* * *

*Pawlak odchodzi mimo najlepszych od lat wyników w gospodarce, komfortowej większości w parlamencie i monolitycznego poparcia własnej partii. Najskuteczniejszym politycznym chwytem z repertuaru premiera Pawlaka była nielojalność. Kumoterstwo, lokowanie na stanowiskach państwowych wyłącznie kolegów, tuszowanie afer korupcyjnych najbardziej zaszkodziły premierowi w oczach opinii publicznej. Kadrowa pazerność ludowców będzie w historii prawdopodobnie wyróżnikiem tego rządu. W tej dziedzinie premier i jego otoczenie przekroczyli niepisane granice przyzwoitości.*

*(Polityka, nr 7)*

Меў рацыю прэм'ер Паўляк, калі гаварыў, што прэса не любіць ПСЛ і яе лідэра.

* * *

*Skłóceni Białorusini podzieleni są na dwa obozy, zaglądający w swą polityczną przeszłość — kto bardziej, kto mniej komunizował — cienko przędą. Co innego Słowacy. Są kamienicznikami w Krakowie, mają drukarnię i lokatorów, którzy płacą słony czynsz. — Może stowarzyszenia białoruskie dały plamę. Polityka państwa jest wtórna. Pozytywnym przykładem są Ukraińcy, którzy przekształcili się wewnętrznie, złym właśnie Białorusini, po 1989 roku tkwiący w rozliczeniach.*

*(Wiadomości Kulturalne, nr 9)*

Цудоўная дэмагогія, гэта ўжо вялікі ўзровень прафесіяналізму. Але прачытайма, што „Wiadomości Kulturalne" пішуць далей:

*Białystok to miasto nie tylko Polaków, lecz także Białorusinów, Tatarów i Ukraińców, którzy dzięki swym stowarzyszeniom mogą kultywować tradycje i folklor. Dużym powodzeniem czytelników na Białostocczyźnie cieszą się „Gazeta Współczesna", „Kurier Poranny", „Kurier Podlaski", białoruska „Niwa", oraz samorządowy periodyk „Echo Michałowa". Kiedy przed kilkoma laty doszczętnie spłonęła cerkiew w Grabarce, jedną z akcji zbierania datków na odbudowę zainicjowała tamtejsza diecezja katolicka.*

*(Wiadomości Kulturalne, nr 9)*

Праўда, чыстая праўда і толькі праўда. Толькі цяжка паверыць, што пішацца так у 1995, бо змест і форма родам з 1975 года.

## З мінулага тыдня

Вялікім гала-канцэртам завяршыўся II Фестываль беларускай песні, аб якім мы пісалі ў папярэднім нумары. Паслухаць найлепшых выканаўцаў прыехалі ў Беласток, між іншым, віцэ-прэм'ер **Владзімеж Цімашэвіч**, віцэ-міністр культуры і мастацтва **Міхал Ягела**. З беларускага боку мерапрыемства ўдастоілі, між іншым, пасол РБ у Польшчы **Георгій Таразевіч**, віцэ-міністры: асветы — **Генадзь Пятроўскі** ды культуры і друку — **Іван Карэнда**, а таксама старшыня Фонду імя Луцкевічаў **Пятро Краўчанка**. Нашым выканаўцам дапамагалі на сцэне калектывы „Сябры" і „Купалінка", а таксама артысты Вялікага тэатра з Менска.

**Архіепіскап Беластоцкі і Гданьскі Сава**, праваслаўны ардынарый Войска Польскага, пабываў у Італіі. Уладыка адправіў жалобнае набажэнства на вайсковым могільніку ў Монтэ-Касіна, а ў праваслаўным прыходзе ў Альгера на Сардзініі пасвяціў царкву св. Вялікамучаніцы Варвары. Два праваслаўныя прыходы ў Італіі знаходзяцца ў юрысдыкцыі Польскай аўтакефальнай праваслаўнай царквы.

**Беластоцкі цэнтр публічнага тэлебачання** ўзнікне праз два гады, а ягонае абсталяванне будзе каштаваць каля 150 млрд. старых злотых, — заявілі на прэс-канферэнцыі ў Ваяводскай управе ў Беластоку прадстаўнікі праўлення Польскага тэлебачання і Краёвай рады радыёвяшчання і тэлебачання. Старшыня Краёвай рады **Януш Заорскі** сказаў, што сядзібай тэлецэнтра ў паўночна-ўсходняй Польшчы быў выбраны Беласток з увагі на адсутнасць паблізу падобнага асяродка, а таксама з увагі на пражыванне на гэтай тэрыторыі нацыянальных меншасцей. Зараз вядуцца пошукі адпаведных памяшканняў для тэлецэнтра.

Падчас сустрэчы з дэлегацыяй **Хрысціянска-грамадскай уніі — Экуменічная акцыя** (колішні ХСС) міністр замежных спраў Беларусі **Уладзімір Сянько** сказаў, што беларускае грамадства выказвае занепакоенасць у сувязі з актыўным імкненнем Польшчы да аб'яднання з Захадам, якое, на думку міністра, можа абазначаць, што для Беларусі граніца з Захадам можа перамясціцца на Буг.

**Беласток наладзіць супрацоўніцтва з чачэнскім горадам Ачхой-Мартан.** Дабро на такую прапанову далі Гарадская рада і маршалак Самаўрадавага сейміка **Мечыслаў Янушэўскі** пасля сустрэчы з прадстаўніком прэзідэнта Чачні **Алі Разанам Ампукаевым** і міністрам культуры і мастацтва гэтай краіны **Тамарай Мазаевай**.

**Група бізнесменаў** стварыла ў Беластоку арганізацыйны камітэт **Усходняга гаспадарчага таварыства**. У заснавальніцкім сходзе прыняло ўдзел 30 беластоцкіх прадпрымальнікаў, якія супрацоўнічаюць з партнёрамі з краін былога СССР. У ліку заснавальнікаў новай арганізацыі апынуўся, між іншым, **Сяргей Мартынюк** — шэф суполкі „Пронар" з Нарвы.

**Шэф Геабатанічнай станцыі ў Белавежы прафесар Януш Фалінскі** ўдастоены звання ганаровага доктара Універсітэта Камерына ў Італіі. Прафесар Я. Фалінскі з'яўляецца аўтарам многіх прац на тэму Белавежскай пушчы. Ад некалькіх гадоў ён у супрацоўніцтве з універсітэтамі ў Томску і Камерына арганізуе даследчыя экспедыцыі ў сібірскую тайгу. Польска-італьянскае супрацоўніцтва ў даследаванні Сібіры лягло ў аснову прысваення яму ганаровага звання.

**Неўзабаве кабельнае тэлебачанне** будзе даступнае амаль усім жыхарам **Гайнаўкі**. Цяпер такім тэлебачаннем карыстаюцца 300 жыхароў цэнтра горада, якія прымаюць 16 каналаў. Да канца 1996 г. такая магчымасць будзе створана астатнім жыхарам горада, з якіх 80% пажадала глядзець замежныя тэлестанцыі.

**У Беластоцкім ваяводстве** назіраецца павелічэнне захворванняў на **шкарлятыну**. Ад пачатку года зафіксавана ўжо звыш ста такіх выпадкаў. Хварэюць галоўным чынам школьнікі, хаця хвароба не абмінае і дзяцей дашкольнага ўзросту.

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"

- > Юбілей Віктара Шведа.
- > Велікапосныя разважанні айца Канстанціна Бандарука.
- > 77-я гадавіна аб'яўлення беларускай дзяржаўнасці.
- > Хто больш небяспечны — чалавек ці воўк? — задумоўваецца Аўрора.



## АБ'ЯВА

Куплю „Вартбурга" з рухавіком „Гольфа", або „Трабанта" з рухавіком „Пола". Кантакт у „Ніве" (тэл. 42-10-33).

# ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

### Прэзідэнт РФ у Менску

Прэзідэнт Расейскай Федэрацыі Барыс Ельцын пабываў у Менску з афіцыйным візітам, у ходзе якога быў падпісаны трактат аб дружбе і супрацоўніцтве ды пагадненні аб гаспадарчай інтэграцыі абедзвюх дзяржаў. Вынікі візіту крытычна ацаніў лідэр парламенцкай апазіцыі, старшыня БНФ Зянон Пазьняк, які на прэс-канферэнцыі сказаў: „Расейскія палітыкі вырашылі кампенсаваць сваё маральнае і стратэгічнае паражэнне на Каўказе захопам Беларусі. Пагадненні і дагавор, якія былі падпісаны, сведчаць аб тым, што спланаваная агульная палітыка на інкарпарацыю Беларусі".

### Асамблея прагрэсіўных

У Менску адбылася Нацыянальная асамблея прагрэсіўных сіл Рэспублікі Беларусь. У нацыянальным прэс-цэнтры праводзілася дыскусія паміж трыма вядомымі палітычнымі дзеячамі: Станіславам Шушкевічам, Зянонам Пазьняком і Генадзем Карпенкам. Прымаць удзел у такой размове маглі ўсе жадаючыя.

### Кватэра для афіцэра

Значны рэзерв для вырашэння жыллёвай праблемы тысяч афіцэрскіх сем'яў беларускай арміі мае намер выкарыстаць прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка. Аказваецца, у ваенных гарадках жывуць тысячы людзей, якія не маюць да арміі ніякіх адносін. Пачатая рэвізія паказвае, што ў гарнізонах закрыты на ключ сотні а можа і тысячы кватэр у той час, калі многія афіцэры не маюць уласнага жылля. А кватэры будаваліся за кошт ваеннага бюджэту і стаяць на балансе Міністэрства абароны, якому прыходзіцца плаціць велізарныя сумы на аплату ацяплення, гарачай і халоднай вады і іншых камунальных паслуг.

### У гонар рэпрэсіраваных

Праблемы аднаўлення гістарычнай справядлівасці і правоў жыхароў Беларусі, якія пацярпелі ў перыяд палітычных рэпрэсій 20-х—50-х гадоў былі ў цэнтры ўвагі першага рэспубліканскага семінара, праведзенага 20 лютага па ініцыятыве беларускай Праваслаўнай царквы. За названы перыяд ахвярамі тэрору сталі больш як 600 тысяч жыхароў рэспублікі. Цяпер многія з іх рэабілітаваны, а ўвесь працэс аднаўлення добрага імя незаконна рэпрэсіраваных павінен завяршыцца ў 1996 г. Мітрапаліт Філарэт сказаў на семінары, што Царкоўны сінод тры гады таму прыняў рашэнне аб будаўніцтве ў Менску храма-помніка Усіх Святых у памяць аб нявінна забітых у час сталінскага генацыду. Побач з храмам будуецца дом міласэрнасці для пакутных душ. Будзе гэта ўклад Царквы ў памяць тых, хто пацярпеў за веру і айчыну.

### Гадавіна святара-адраджэнца

Мінула 105 гадавіна з дня нараджэння пісьменніка Канстанціна Стаповіча, вядомага ў літаратуры пад псеўданімам Казімір Сваяк. Ён — каталіцкі святар, які сваё слова рэлігійнага прапаведніка ў беларускім касцёле зрабіў словам беларускага асветніка і пісьменніка, спрыяючы духоўнаму ачышчэнню і аднаўленню чалавека. Нарадзіўся К. Сваяк у вёсцы Барані Гродзенскай вобласці ў сялянскай сям'і. Вучыўся ў Віленскай настаўніцкай духоўнай семінарыі. Сярод сваіх прыхаджан вёў ён шырокую культурна-асветную работу. Стварыў хор беларускай песні, адкрыў некалькі беларускіх школ і настаўніцкія курсы, ладзіў канцэрты, спектаклі, вечарыны. Найбольш знаная кніга К. Сваяка, якая выйшла ў 1924 г. — зборнік вершаў „Мая ліра" — прасякнута духам пратэсту супраць нацыянальнага і сацыяльнага ўціску. Для беларусаў-католікаў К. Сваяк падрыхтаваў малітоўнік „Голас душы". Імя Сваяка стаіць у шэрагу імёнаў людзей, якія самаахвярна служылі духоўнаму адраджэнню беларускага народа.

### Выстаўка ў Бельгіі

Адкрыццё выстаўкі выяўленчага мастацтва беларускіх майстроў пэндзля адбылося ў бельгійскай сталіцы Бруселі. З экспазіцыяй пазнаёмяцца не толькі жыхары сталіцы, але і іншых гарадоў гэтай краіны, а сродкі атрыманыя ад продажу работ беларускіх жывапісцаў будуць накіраваны ў фонд падтрымкі дзяцей, якія пацярпелі ад вынікаў чарнобыльскай аварыі. Выстава прымеркавана да візіту прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі ў гэтую краіну, які магчыма адбудзецца гэтай вясной.

### Незвычайная пропаведзь

У царкве св. Архангела Міхаіла ў Жодзіне адбылася незвычайная падзея. Упершыню тут з пропаведдзю выступіў вучоны, акадэмік Акадэміі навук Беларусі Міхаіл Вейнік. Ён гаварыў аб НЛА (UFO), палтэргейстах, тлумачыў прыроду розных незразумелых з'яў.

### Чаму б не аб'яднацца з Егіптам?

У Гомелі, побач з тымі, хто збіраў подпісы за ўзнаўленне СССР, студэнты прапанавалі паставіць свае аўтографы за далучэнне Беларусі да Егіпта. Яны пераконвалі прахожых, што ў Егіпце шмат фінікаў, бананаў і цяпла, што непатрэбна траціць грошы на адзенне і энергарэсурсы. Некаторыя прахожыя падпісваліся пад заклікам студэнтаў.

# Махнатае — жывая вёска

На Беласточчыне няшмат такіх вёсак як *Махнатае.* Можна тут далічыцца звыш трыццаці гаспадароў, да таго ўсе — маладыя земляробы з сярэдняй адукацыяй. Прыезджаму наглядальніку адразу кідаецца ў вочы стараннасць і гаспадарлівасць людзей. Шырокая, асфальтавая вуліца, дамы, якіх не пасаромеліся б перыферыйныя гарады, машыны. Больш таго, тут людзі з пачуццём нацыянальнай годнасці. Да сваіх дзяцей гавораць нармальна, на роднай мове. Тут, дарэчы, сустракаю дзетак, якія звычайна карыстаюцца мясцовым дыялектам. Пры нагодзе ўспамінаецца мне махнацкі варыянт напеву „Розпрэгайтэ хлопці коні". Многія мае сябры з гэтай вёскі заўсёды былі гарачымі місіянерамі рэгіянальных асаблівасцей. Магчыма, што гэтыя слаўныя традыцыі не прападуць. У пачатковай школе шмат інтэлігентных вучняў і высокі ўзровень навучання. Кожны год з Махнатага многа моладзі паступае ў гайнаўскі т.зв. беларускі ліцэй.

* * *

Махнатае ляжыць пры чыгуначным шляху з Беластока ў Белавежу. Дзякуючы гэтаму вёска мела магчымасці развіцця. Многія вяскоўцы даязджалі на працу ў Гайнаўку і дадаткова займаліся гаспадаркай. Зараз, калі спыніўся рух цягнікоў на гэтай чыгуначнай лініі, з'явіліся праблемы.

— У нядзелю, напрыклад, зусім няма як дабрацца ў Гайнаўку. У будзённыя дні аўтобусы курсуюць. Але не заўсёды гадзіны адпавядаюць падарожнікам. Вучні, якія штодзённа даязджаюць у школы, ходзяць аж на прыпынак у Старым Беразове. Таксама пенсіянеры апынуліся ў цяжкім становішчы. Яны найбольш адчуваюць адсутнасць выгаднага спалучэння з Гайнаўкай, паколькі ў іх няма машын, ні грошай на „таксоўку". Вёску нельга пакінуць адізаляванай ад свету. Улады ПКС абяцалі ў новым раскладзе руху аўтобусаў не забыцца пра праблемы нашай вёскі. А так, у нас як і ўсюды, нешта робіцца. Маем ўжо водаправод, асфальт. Неўзабаве плануем пабудаваць каналізацыю, а пры нагодзе тэлефонную лінію і ачышчальню, — паінфармаваў мясцовы радны, магістр Аляксей Сельвясюк.



*Уся сям'я спадарства Сельвесюкоў чытае "Ніву".*

У доме спадарства Сельвесюкоў беларуская гасціннасць. Таксама „Ніву" чытае ўся сям'я, дарэчы, беларуская літаратурная мова тут у пашане. Спадарства Сельвесюкі — настаўнікі-пенсіянеры.

* * *

Солтыс вёскі Мікалай Місяюк быў крышку здзіўлены частым наведваннем вёскі журналістамі.

— Нядаўно быў тут хлопэць з радыва, — успомнiў дзядзька нядаўні візіт журналіста Беластоцкага радыёвяшчання. І пэўна, здзівіўся, калі пачуў сябе ва „Украінскай думцы". Дарэчы, украінскія ідэі, нягледзячы на характар палескага дыялекту, не маюць тут зразумення.

— У нацыянальным сэнсе вёска Махнатае аднародна беларуская, — паяснялі мясцовыя інтэлігенты.

— У нас, як ніколі, картоплі гніют, — уздыхнуў солтыс, выносячы з падвала кошык перабранай бульбы.

— Кулькі жыву, такого нэ пумню. За картоплі два разы больш як за пшэныцю платят, — дадала жонка солтыса.

У спадарства Місеюкоў гуляе непаседлівы ўнучак Томэк. Бацькі яго на працы, у Гайнаўцы, а ён, карыстаючыся правамі ўнука, буяніў па хаце.

— Колісь то діты послушны былі, а коб такіх, як наш Томэк, трох было, то чоловік здурыў бы, — успамінае з сентыментам традыцыйнае, сялянскае выхаванне дзяцей цётка. Нялёгкае, працавітае жыццё адбілася на яе здароўі. Цётка шаснаццаць разоў была ў шпіталі. Аднак без працы не ўяўляе жыцця. І без вёскі таксама.

— Хіба, што сама зосталася б, то тогды до сына пошла б, — згодна з мужам кіўнула галавой мая субяседніца.

Зрасліся з зямлёй, не дзіва.

— У нас у вёсцы ўжо толькі двое коней, — заявіў з гонарам солтыс.

Усе астатнія гаспадары маюць машыны.

Нядрэннае эканамічнае становішча (асабліва ў параўнанні з паміраючымі вёскамі) гарманізуе з псіхічным здароўем вяскоўцаў. У вёсцы панує пагарда да ўсялякага тыпу паталогій, асабліва да п'янства і зладзейства. Прыезджых сустракаюць шчыра без прэтэнцыёзнай надзеі.

У Махнатым 470 жыхароў.

* * *

Махнатае спалучаецца з другой вялікай вёскай, Старым Беразовам. Здавалася б, што натуральнай мяжой ёсць тут чыгуначныя рэйкі. Аднак пасяленне беразоўцаў пераходзіць яшчэ далёка за гэтую лінію. Пабудаваліся яны на сваіх палях і такім спосабам „увараваліся" ў Махнатае. Не раз ужо былі цяжкасці вызначыць сапраўдную прыналежнасць жыхароў. Дамы з гэтай зоны мелі нават падвойныя нумары. Сённяшняя граніца апынулася побач прыдарожных крыжоў. Гэтая калатнеча збівае з пантылыку нават калядуючых святароў. Як правіла, кожны з іх наведвае ўсе сумежныя хаты. Усё было б нармальна, каб не тое, што Беразова і Махнатае належаць да розных прыходаў.

Зусім як у пытанні нацыянальнай прыналежнасці Падляшша.

**Ганна Кандрацюк**
**фота аўтара**



*Спадарства Місеюкі з унукам Томкам.*

# Безнадзейнасць

„Ніва" апошнім часам змясціла некалькі матэрыялаў пра эпідэмію алкагалізму, якая знішчае насельніцтва беларускіх вёсак. Раней алкагалізм тлумачылі палітыкай камуністаў, якія поўнасцю распівалі хрысціянскі народ, каб здэмаралізаванай масай лягчэй было кіраваць. Аднак паказчыкі колькасці выпітага чыстага спірту на душу жыхара Польшчы ўзрастаюць у апошніх гадах у маланкавым тэмпе. Аказалася, што справа больш складаная, чым вынікае гэта з ідэалагічных інтэрпрэтацый. Колькасць выпітай гарэлкі, дэнатурату, ці іншых адурманьваючых вадкасцей зусім не залежыць ад абавязваючай дзяржаўнай ідэалогіі, грашовых запасаў грамадства. Прынцыпова беднейшыя народы, групы ці асяроддзі п'юць больш, чым багатыя.

Пару мільёнаў людзей у Польшчы жыве толькі дзеляаднае мэты — ніколі не быць цвярозым. Можна прыглядацца кожнай грамадскай групе і аналізаваць прычыны такога стану, можна нават аналізаваць лёс кожнага чалавека, які паставіў сябе ў залежнасць ад алкаголю і перастаў існаваць як свядомая асоба, але з усёй навуковай літаратуры вынікае аднак выснова, што першапачатковай крыніцай гэтай псіхічнай хваробы з'яўляецца пачуццё безнадзейнасці. Слабыя ўцякаюць ад сябе, перастаюць марыць, здаюцца, хаваюцца за алкагольнай заслонай.

Хлопцы, якія адзінока засталіся на вёсцы, хутка страцілі сэнс сваёй працы. Перш за ўсё, не маючы жонак, ні дзяцей, ставілі сабе пытанні: дзеля чаго маюць араць поле і даіць кароў? Чым займацца пасля цяжкай працы? На вёсцы апрача пенсіянераў асталіся толькі такія ж самыя поўныя адчаю людзі, як і яны. Амаль у кожнай вёсцы, у якой гаспадараць адзінокія сарака- ці пяцідзесяцігадовыя хлопцы, пастаянна мычаць нядоеныя, няпоеныя і галодныя каровы, бо іх гаспадар два дні, а часам і больш не ў змозе падняць ні галаву, ні руку.

Выразна набліжаецца дэмаграфічны крах нашых вёсак. Кожны год адыходзяць не толькі пенсіянеры, але і маладыя людзі, якіх здароўе не стрымала колькасці выпітага алкаголю. Прыбывае пустых хатаў і абшараў някранутай плугам зямлі. Апакаліптычная перспектыва беларускіх вёсак на Беласточчыне ўсё-такі прыводзіць пытанне: чаму так дзеецца, што вясковыя хлопцы, найчасцей сумленныя, працавітыя і з пачуццём годнасці, пераўтвараюцца ў механізм для фільтравання дэнатурату? Нельга абвінавачваць толькі іх за тое, што апынуліся ў такім стане, бо праўдападобна не адзін інтэлігент, які захапляецца сваім інжынерскім ці прафесарскім званнем, піў бы ў такім самым самагубным стылю, як іх вясковыя калегі.

Горад, хаця стварае больш шанцаў дасягнення нейкага жыццёвага поспеху, таксама перажывае вялікую дэмаралізатарскую хвалю. Беспрацоўе і адсутнасць перспектыў для маладых людзей, якія канчаюць школы, з'яўляюцца галоўнымі прычынамі не толькі алкагалізму, але таксама ўсялякай злачыннасці, узрастаючай з году ў год. Без моцных кратаў у вокнах сёння не пратрывае ночы ніводная крама. Але ў горадзе не пагражае дэмаграфічная катастрофа так, як на беларускай вёсцы. Таму той, хто меў інстынкт самазахавання, скрыўся менавіта ў Беластоку, Бельску, Гайнаўцы. Тут усё яшчэ можа адмяніцца. Эканамічны крызіс раней ці пазней скончыцца. Лёс нашых вёсак амаль немагчыма адмяніць.

**Васіль Кургановіч**

**Вельмі Шаноўны Рэдактар газеты „Ніва"!**

Вітаю Вас з 77-мі ўгодкамі Абвяшчэння Незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі Векапомным Актам **25-ГА САКАВІКА 1918 г.** і жадаю так грамадзянам Рэспублікі Беларусь — як і грамадзянам беларускага паходжання ў другіх краінах свету, як найхутчэйшага замацавання Свабоды і Незалежнасці Рэспублікі Беларусь і поўнага адраджэння ўсяго беларускага нацыянальнага жыцця!!!

Мы ведаем, што яшчэ і цяпер астаткі „единой и неделимой" імперыі ўсё яшчэ мараць аб панаванні над беларускім народам — аднак яны мусяць знаць, што Ідэя Незалежнасці Беларусі ёсць НЕПЕРАМОЖНАЙ!!!

Жыве Вольная і Незалежная Рэспубліка Беларусь!!!

З пашанай,

**АЛЕСЬ АЛЕХНІК,**
**Генеральны Сакратар**
**Згуртавання Беларусаў**
**у Аўстраліі**

# КАМУНІКАТ

Кафедра беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта паведамляе аб прыёме кандыдатаў на беларускую філалогію ў 1995/1996 г.

Інфармацыйны сход для кандыдатаў адбудзецца 18 сакавіка 1995 г. (субота) а 10 гадзіне (Warszawa, ul. Szturmowa 4, sala 4).

**Сакратар Прыёмнай камісіі**
**д-р Тэрэса Ясіньска**

# Прызямленне ў Мінкаўцы

У Мінкаўцы, малой вёсцы пад Нараўкай, жыве надта ж малады пенсіянер. Іван Бяглюк стаў пенсіянерам ва ўзросце 42 гадоў. Так рана пераходзяць на пенсію толькі прадстаўнікі выключных прафесій. Іван Бяглюк быў вайсковым пілотам верталёта.

Пакуль папаў у войска, скончыў Электрычны тэхнікум у Беластоку па спецыяльнасці электроніка. Закончыўшы тэхнікум, правёў стажыроўку ў Гайнаўцы і Бельску, пасля чаго ў 1972 г. прызваны быў у армію.

У войску накіравалі яго ў Замосць, у Тэхнічную школу паветраных войск, дзе атрымаў прапанову перайсці ў школу пілотаў. Вытрымаў медычныя абследаванні і экзамены, пасля чаго перайшоў тэарэтычнае абучэнне і скок з парашутам на Авіяцыйных вайсковых падрыхтоўчых курсах у Кросне над Віслокам. Практычнае абучэнне адбыў у Люблінку на самалётах „Бес".

Пасля абучэння паступіў у Вышэйшую афіцэрскую школу паветраных войск у Дэмбліне, якую закончыў у 1976 г. Пасля студыяў накіраваны быў у 37 полк транспартных верталётаў у Лезніцы пад Лэнчыцай. Там правёў усю службу, цэлы час на цяжкіх верталётах Мі-8.

Першым сур'ёзным выпрабаваннем стала для яго ваеннае становішча, калі полк быў пастаўлены ў баявую гатоўнасць.

Потым з грамадскай стыхіі ваеннага становішча акунуў у прыродную стыхію паводак пад Плоцкам. Трэба было ратаваць людзей, давозіць ім харчы і знімаць з дахаў затопленых дамоў, з паветра, пры дапамозе кранаў, у тэмпературы -15°С. За гэтую акцыю Іван Бяглюк адзначаны быў сярэбраным медалём „Za zwalczanie powodzi", прызнаным Міністэрствам сельскай гаспадаркі.

Наступнай вялікай акцыяй, у якой удзельнічаў І. Бяглюк, было таксама змаганне з паводкамі, гэтым разам на Жулавах. Там трэба было скідаць мяшкі (у аграмадных сетках з-пад буракоў), каб латаць дзіры ў дамбах на Вісленскім заліве. Пусціlі дамбы з боку мора, што пагражала затапленнем усіх Жулаваў, краю, які ляжыць ніжэй узроўню мора. За гэтую акцыю Іван Бяглюк атрымаў залаты медаль „Za zwalczanie powodzi".

Прыгодай жыцця стала для Івана Беглюка Эфіопія, дзе правёў сем месяцаў у 1985—86 гадах. У рамках дапамогі ААН для гэтай галоднай краіны Польшча паслала эскадрон верталётаў. Іван Бяглюк быў шэфам пілотаў другой змены. Польскія пілоты разам з англійскімі і нямецкімі забяспечвалі транспарт харчоў у пацярпеўшыя ад голаду раёны. Іван Бяглюк вылятаў 350 гадзін у вельмі цяжкіх абставінах, у горах на вышыні за 4 000 метраў над узроўнем мора. Наглядзеўся там усяго: і людскай бяды, і неймаверна прыгожых краявідаў. Засталіся ад гэтага ўспаміны і багатая калекцыя здымкаў: на адных людзі як мурашкі збіраюць скінутыя з верталёту харчы, на іншых красуюцца цудоўныя вадаспады.

Вярнуўшыся з Эфіопіі, Іван Бяглюк стаў інструктарам па абучэнню ва ўсіх умовах (абучаў між іншым лівійцаў, якія падарылі яму „Зялёную кніжыцу" Муамара Кадафі), праводзіў палёты, забяспечваў спецакцыі, у тым ліку акцыю „Папеж" падчас візіту папы рымскага.

У запас перайшоў у ранзе маёра. Развітанне было вельмі ўрачыстае, паколькі адначасова адыходзіла чатырох вопытных пілотаў. Іван Бяглюк пацалаваў стабілізатар свайго верталёта і ўзяў накірунак на Мінкаўку, спрадвечную сялібу Беглюкоў.

Беглюкі калісь называліся Граматовічы. Яшчэ ў міжваенны перыяд выступаюць у дакументах як „Граматовіч vel Бяглюк".

Паводле сямейнай легенды, далёкі продак Беглюкоў меў двух сыноў і шмат зямлі: лепшую ў Мінкаўцы, горшую ў Сухадолах. Вырашыў надзяліць сыноў зямлёй даволі дзіўным чынам. Вызначыў мэту і аб'явіў, што той, хто першы да яе дабяжыць, атрымае лепшую зямлю. Той, хто прыбег першы, атрымаў зямлю ў Мінкаўцы і клічку Бяглюк, ад сваіх хуткіх пабегаў. Другі пасяліўся ў Сухадолах, ад яго павяліся Сухадолы.

Вяртацца на бацькаўшчыну дык вяртацца, але ж у Івана жонка варшавянка і двое дзяцей, народжаных і ўзгадаваных у цэнтры Польшчы.

Анна Бяглюк, з роду Бублевічаў, усміхаецца, кажучы, што не такая зусім яна варшавянка. Абое яе бацькі са Слонімшчыны, з вёскі Нестанішкі пад Астраўцом. Там засталася цэлая сям'я яе бацькі, бо толькі ён пераехаў у Польшчу. У Коле сустрэў сваю школьную сяброўку, з суседскай сям'і Мажэйкаў; так і пажаніліся. Такім чынам, паясняе Анна Бяглюк, пераезд у Мінкаўку для яе з'яўляецца вяртаннем да карэнняў. Лёгка вярнулася да карэнняў і дачка Беглюкоў Агнешка, вучаніца 3-га класа Беларускага ліцэя ў Гайнаўцы. Бацька, пакуль яшчэ пераехалі з-пад Лэнчыцы, прыехаў спецыяльна ў Гайнаўку і запісаў дачку, якая якраз скончыла пачатковую школу, у гэты ліцэй. Вяртанне да карэнняў патрабуе ад Агнешкі сякіх-такіх ахвяраў: да школы мае, казаў той, „пад горку". Устае ў 5.40, ідзе 3 км пехатою ў Нараўку, з якой даязджае аўтобусам у Гайнаўку. Агнешка ўсё-таki не крыўдуе. Лёгка асімілявалася ў новым асяроддзі, любіць сваю школу і належыць да Клуба беларускай думкі. Ужо і па-беларуску загаворыць. Бацькі толькі ў галаву заходзяць, скуль у яе ўзялася цяга да гуманітарных навукаў.

Як ні дзіўна, найцяжэй прыжываецца на бацькаўшчыне наймалодшы Бяглюк, 8-класнік Славамір. Быццам бы таксама не крыўдуе, але бачачы яго вочы, калі мы глядзелі відэакасету, запісаную ў Лезніцы пад Лэнчыцай, я зразумеў, што духам ён надалей там. Магчыма таму, што ўдаўся ў бацьку сваёй цягай да тэхнікі, а там жа лятаюць верталёты быццам на якімсьці амерыканскім фільме.

Астатнія Беглюкі не азіраюцца назад. Як сказала Анна, пасяленне ў Мінкаўцы планавалі з давён-даўна, амаль ад самога пачатку службы Івана. Пытацца, што цяпер робяць, нават і не трэба. Адразу відаць, што Беглюкі будуюцца. На месцы, дзе стаяла прадзедава хата, а пасля мураванка, ставяць аграмадны дом. Са старой мураванкі скарысталі толькі часткова фундаменты. Падчас уступных працаў знайшлі падкову, якая цяпер вісіць на коміне ў гасцёўні; на шчасце.

Новы дом распланавалі самі. Нарысавалі, што ім марыцца, а архітэктар зрабіў з гэтага прафесійны праект. Будуюцца самі. У Івана залатыя рукі, а чаго не ўмее, дапамагаюць зрабіць сямейнікі і сябры. Не адны ж Беглюкі будуюцца, дык дапамагаюць сабе хто чым умее. Мураваць, напрыклад, памог сябра Івана з войска, муляр. Наогул, з Лэнчыцы безупынна прыязджаюць сябры, якім у Мінкаўцы вельмі падабаецца. Як палічылі Беглюкі, летась гасцявалі ў іх 52 асобы, не лічачы такіх, якія заехалі на адзін дзень. Госці тыя добрыя, бо стараюцца не быць цяжарам, а дапамагчы.

Клопатаў і працы ўсім хапае. У доме амаль скончаны ўжо ніз, засталася горка. Ёсць вада і цэнтральнае ацяпленне. Нават печку да яго зрабілі самі. Паставілі таксама хлебную печку і пякуць свой хлеб.

Дом стаіць на 3,5-гектарным участку над рэчкай Нараўкай. Выкапалі ўжо сажалку.

У час маёй пабыўкі тэмай дня былі курыцы, якіх Беглюкі набылі штук дзесяць. Трэба ім паставіць куратнік і прыдбаць пеўніка, каб не абы-якога.

Трэці год жыве Іван Бяглюк на сваёй зямлі і пры зямлі. Усё-такі хочацца яму часам ад гэтай зямлі адарвацца. Плануе з сябрамі пабудаваць дэльтаплан з рухавіком.

**Алег Латышонак**



*Іван Бяглюк (справа) у Эфіопіі.*




Białystok, 16 lutego 1995 r.

**Redakcja "Rzeczpospolitej"**

14 lutego br. w "Rzeczpospolitej" został wydrukowany list podpisany przez prezydenta Białegostoku Andrzeja Piotra Lussę. Dyskusja z autorem byłaby bezcelowa, gdyż wyraźną jego intencją było dążenie do poniżenia Białorusinów — obywateli Polski. List-paszkwil został jednak zamieszczony w wysokonakładowym dzienniku i część informacji czytelnicy "Rzeczpospolitej" mogą przyjmować jako prawdę.

Lussa obarcza Białorusinów winą za krzywdy wyrządzone podlaskim unitom przez rządy carskie. Do głowy mu nawet nie może przyjść, że owi unici byli Białorusinami.

W Białymstoku w okresie międzywojennym istotnie — ma rację prezydent Lussa — nie palono cerkwi, większość zamieniono na kościoły (obecny kościół garnizonowy przy ul. Kawaleryjskiej, oraz na Wygodzie przy ul. Traugutta). Jedynie w przypadku cerkwi przy ul. Sienkiewicza Rada Miejska w 1938 r. przegłosowała postanowienie o rozbiórce świątyni, przeznaczając na ten cel 20 tys. zł. Przeciwko tej decyzji głosowali radni żydowscy. Po kilku miesiącach prac prowadzonych tradycyjnymi metodami, ze względu na wyczerpanie się funduszy, zdecydowano najzwyczajniej wysadzić cerkiew dynamitem.

W Białymstoku w okresie międzywojennym nie mogło być szkół białoruskich, gdyż przepisy wykonawcze do ustawy o szkolnictwie dla mniejszości narodowych z 1924 r, zabraniały ich tworzenia na terenie województwa białostockiego, poza powiatem grodzieńskim i wołkowyskim.

Obecność Białorusinów w strukturach władzy województwa białostockiego w okresie PRL rzeczywiście była znacząca, odpowiadająca jednak ich udziałowi w strukturze narodowościowej ludności Białostocczyzny. Sytuację taką należałoby uznać za stan normalny. Nienormalnym natomiast wydaje się stan obecny, kiedy nie ma żadnego Białorusina we władzach wojewódzkich, nie wspominając o miejskich w Białymstoku. Wiele wskazuje na to, że w Białymstoku i w województwie białostockim Białorusini wciąż stanowią znaczny odsetek ludności.

Pan Lussa kolejny przedstawiciel współczesnej nomenklatury, odwołał się do mitologii i oskarżył Białorusinów o podróże do Moskwy z prośbami o przyłączenie Białostocczyzny do Związku Radzieckiego. Sądzę, że honor Prezydenta Miasta Białegostoku zmusi go do doprowadzenia sprawy do końca, a więc — kiedy i kto z białostockich Białorusinów jeździł do Moskwy z prośbą o przyłączenie Białostocczyzny do ZSRR? Brak odpowiedzi na to pytanie każe zakwalifikować wystąpienie prezydenta Białegostoku na łamach "Rzeczpospolitej" do kategorii prowokacji politycznej.

**Eugeniusz Wappa**
**Przewodniczący**
**Związku Białoruskiego w RP**

*"Rzeczpospolita" ліста гэтага не надрукавала.*

**Выступленне Пятра Краўчанкі, старшыні Фонду імя братоў Луцкевічаў Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады на гала-канцэрце фестывалю „Беларуская песня - 95" у Беластоку 26.02.1995 г.**

Наша Беларусь канае, памірае і нейкі здзек гісторыі — праз 200 гадоў пасля 1795 года зноў пагроза інкарпарацыі ў склад Расіі, зноў Беларусь можа ператварыцца ў Паўночна-Заходні край, зноў знаходзяцца людзі, якія здзекваюцца з мовы, з песні, з культуры, з нацыі. Зноў ёсць людзі, якія забываюць словы вялікага польскага паэта Адама Міцкевіча, што ў беларускай песні і казцы ёсць усё. І знаеце што, у мяне сёння ўзнікла крамольная думка: што можа так стацца, праз пяць ці сем гадоў, калі мы будзем прыязджаць сюды не вітаць вас і не падтрымліваць, а прыязджаць, каб чэрпаць абедзвюма рукамі з чыстай крыніцы беларускасці і беларускай мовы на Беласточчыне лепшае для Бацькаўшчыны.

Захоўвайце мову, беражыце і сябе, і нас!

І тыя святыя дзеткі, якія стаяць перад намі — зарука гэтаму. Я хачу ўспомніць словы Максіма Багдановіча, звяртаючыся да гэтай грамады:

„Брацця, ці зможам грамадзкае гора? Брацця, ці хопіць нам сілы?"

Хопіць, калі ёсць гэтыя нашыя беларускія дзеткі, хопіць, калі на Беларусі і ў вас будзе гучаць беларуская сапраўдная мова. Хопіць, калі на зямлі захаваецца хаця б адзін беларус. Покуль будзе існаваць беларускі дух і беларускае сэрца, покуль будзе існаваць хаця б адно беларускае слова — будзе жыць і Беларусь.

Жыве і векі вечныя будзе жыць Беларусь!

Жыве Беларусь!

# ПАШЫРАННЕ ЭКУМЕНІЗМУ

**Першы пасляваенны прэм'ер-міністр Польшчы Эдвард Асубка-Мараўскі хваліўся ў сваіх успамінах, як вытаргаваў ад Сталіна частку Белавежскай пушчы. Раней уся пушча мелася аставацца на савецкім баку мяжы, а на польскім — Гайнаўка са сваёй дрэваапрацоўчай індустрыяй. „У пушчы не жывуць ні беларусы, ні ўкраінцы, — быццам сказаў Э. Асубка-Мараўскі, — толькі зубры. Зубры ж не маюць нацыянальнасці". Белавежа вядомая дзякуючы зубрам. Сама мясцовасць — дзве з паловай тысячы жыхароў — пасярод Белавежскай паляны, безумоўна, для турыстаў менш цікавая.**

* * *

У Белавежы дух экуменізму быў прысутны намнога раней, чымсьці паявіўся сам тэрмін. На могільніку. На ўзгорку, за стадыёнам мясцовага клуба „Зубр", побач сябе магілы праваслаўных, рыма-католікаў, баптыстаў, іегавістаў, іншых сектантаў і атэістаў. Ніхто не памятае, каб каму-небудзь адмовілі тут пахавання.

### КАМУ МЕСЦА ВЕЧНАГА СПАЧЫНКУ?

Могільнік узнік у XVIII стагоддзі і сёння ён зацесны. Усё часцей падчас капання новых магіл трапляюцца косці. Настаяцель праваслаўнага прыхода **а. Сяргей Корх** звярнуўся ў Гмінную ўправу з просьбай пашырыць могілкі так, каб заставаліся яны надалей уласнасцю прыхода. Тады выявілася, што далёка не ўсе жыхары Белавежы ведаюць, што клады з'яўляюцца ўласнасцю Праваслаўнай царквы. „Мы лічым, што да гэтай пары могільнік быў месцам, якое яднае ўсіх жыхароў Белавежы, без розніцы веравызнання, паходжання ці заможнасці, — напісаў у пісьме ў Гмінную ўправу **кс. Станіслаў Лукашэвіч**, тадышні пробашч рыма-каталіцкай парафіі Св. Тэрэзы. — Хочам, каб добрая традыцыя працягвалася. На нашу думку, новы могільнік можа быць шматканфесійны, на ранейшых прынцыпах, або — калі Высокая Рада палічыць слушным — камунальны. Выказваем супраць перадачы могільніка адной з канфесій, бо такое рашэнне было б пачаткам канфліктаў, якія няўхільна падзялілі б не толькі нашую малую грамадскасць, але і многія мешаныя сем'і".

Прадстаўнікі іншых веравызнанняў, кажуць мне ў гміне, таксама выказаліся за камунальны могільнік. Вуснa, пісьмаў ніякіх не высылалі.

Гмінная рада, на пасяджэнні 27.04.1994 года, пастанавіла ўтварыць камунальны могільнік. **Войт Анна Байко** перакананая ў слушнасці рашэння.

— Большасць Рады складалі праваслаўныя, — кажа яна, — як зрэшты і ў гэтым складзе. Але ў Белавежы ёсць розныя рэлігіі і мы не можам дапусціць якой-колечы дыскрымінацыі. Таму камунальны могільнік, пад апекай гміны, з'яўляецца найлепшай развязкай.

### МІЖКАНФЕСІЙНЫЯ СТАСУНКІ

**Ксёндз Ежы Бузун** — новы пробашч рыма-каталіцкай парафіі — у Белавежы ўсяго паўгода.

— Калі прымалася гэтае рашэнне, — гаворыць, — мяне яшчэ тут не было, аднак лічу, што Гмінная рада пастанавіла правільна. Ці існуючы могільнік праваслаўны? Можна вынесці такое ўражанне, бо нават да сённяшняга дня на шмат якіх помніках надпісы зроблены кірыліцай. Некаторыя мае парафіяне такое аднaзначнае вызначэнне адчуваюць як крыўднае. Успамінаюць яны, што калісьці могільнік быў грэка-каталіцкі. Я не гісторык і не хачу ў гэтай справе выказвацца. Пачакаю голасу нашых гісторыкаў з семінарыі, якія апрацоўваюць мінулае Рыма-каталіцкага касцёла ў Белавежы да 70-годдзя нашай парафіі. Незалежна ад усяго, хаця я тут новы, хачу падкрэсліць вельмі добрае супрацоўніцтва з айцом Сяргеем.

26 студзеня ў Белавежскім асяродку культуры ладзіўся ўпершыню супольны вечар калядак. Карыстаўся ён вялікім зацікаўленнем. Вучні Лясного тэхнікума таксама зацікавіліся супольным навучаннем рэлігіі. Абодва духоўныя, пасля Каляд, на працягу двух дзён хадзілі разам па класах, аб'яснялі праўды веры і адказвалі на шматлікія пытанні.

— Я тут ужо 16 гадоў, — кажа **а. Сяргей Корх**, — а каталіцкіх ксяндзоў за гэты час змянілася ўжо сем. З усімі я падтрымліваў кантакты, але якогасьці спецыяльнага супрацоўніцтва не было. Не запрашалі мы адзін аднаго на святы. Гэты ксёндз прысутнічаў на адзначэнні сотай гадавіны нашага прыхода, на Пакрову мінулага года. Гэта быў першы такога тыпу візіт.

У Белавежы вельмі многа мешаных сем'яў. Рашучая іх большасць выбірае каталіцызм.

### УСЁ ПАЧЫНАЕЦЦА З ЗЯМЛІ

У 1950 годзе праваслаўная парафія ў Белавежы страціла, на падставе дэкрэта аб пераняцці на ўласнасць дзяржавы зямельнай маёмасці мёртвай рукі, звыш 27 гектараў зямлі. Сёння на гэтай зямлі стаяць будынкі Гранічнай стражы, Даследчага інстытута лясніцтва, Белавежскага нацыянальнага парку, Геабатанічнай станцыі Варшаўскага універсітэта, жылы будынак Польскай акадэміі навук, частка адышла пад прыватныя ўчасткі. Закон аб адносінах дзяржавы да Польскай аўтакефальнай праваслаўнай царквы ад 1991 года прадбачвае зварот забранай зямлі. Гміна прапануе парафіі ўчасткі, якімі распараджаецца Агенцтва зямельнай уласнасці Скарбу дзяржавы. Войт робіць закід праваслаўнаму святару, што той да гэтай пары нічога не выбраў.

— Гэта параскіданыя дзесьці пад лесам кусочкі па некалькі сотак, — кажа **айцец Сяргей Корх**, — з якіх для парафіі не будзе ніякай карысці. Я прапанаваў іншую развязку, а менавіта, за права на пашырэнне могільніка мы маглі б зрачыся патрабаванняў на частку нашай маёмасці. Раз ужо кладзішча пашыралася, у 1932 годзе. Парафія купіла ад гаспадароў гектар ворнага поля, даючы ў замен два гектары. Усе былі задаволены. Цяпер таксама нешта такое можна было б зрабіць.

Пані войт лічыць, што сёння такога тыпу здзелка немагчымая. У распараджэнні гміны няма такой зямлі, якую магла б перадаць парафіі. Так можна было зрабіць, калі існаваў Нацыянальны фонд зямлі, а цяпер усё трэба афармляць праз Агенцтва зямельнай уласнасці.

— За пашырэннем могілак ідуць вялікія кошты, — кажа **Анна Байко**, — я не ведаю, ці каторая з нашых парафій магла б з імі справіцца. Каштуе ж упарадкаванне тэрыторыі, яе агароджа, вада, вываз смецця. Гэтыя абавязкі бярэ на сябе гміна, прычым месца пахавання застаецца надалей дармовае.

**Ксёндз Ежы Бузун** прызнаецца, што яго парафія сапраўды забедная, каб закладаць уласны могільнік.

— У нас дзесьці 700 вернікаў, — кажа ён, — да таго чакае нас рамонт касцёла. Самая дахоўка, якой не мянялі ад пабудовы, г.зн. 60 гадоў, будзе каштаваць каля паўмільярда, бо рэстаўратар даў згоду толькі на шведскую. Таму рашуча падтрымліваем ідэю супольнага могільніка.

**Бацюшка Сяргей Корх** таксама пагаджаецца, што з фінансавага пункту гледжання лепш было б, каб гміна ўтрымлівала могільнік.

— Але ж ёсць і іншы аспект справы. Не ўсё вымяраецца грашамі. Ці ў час, калі ўсё вакол прыватызуецца, камунальны могільнік не з'яўляецца анахранізмам? Я часамі стаўлю сабе пытанне, чый ён акажацца ў будучыні?

* * *

— Шкада было б, калі б новы могільнік быў занадта ўпарадкаваны, — кажа **Пётр Байко**, найлепшы знаток белавежскай мінуўшчыны, — калі б узніклі аддзельныя канфесійныя кватэры. Людзі ж у жыцці ад сябе не аддзелены.

Успамінаю гэтыя словы блукаючы між нерэгулярна раскіданымі магіламі. Чым яны навейшыя, тым надмагільныя помнікі больш падобныя адзін да аднаго. На тых сучасных амаль не сустракаецца кірыліца. Пра рэлігійную прыналежнасць нябожчыка сведчыць часам прозвішча, часам імя. Але ўсё радзей і радзей.

**Мікола Ваўранюк**

# МУЗЕЙ

Мае рацыю Кастусь Майсеня, калі гаворыць, што беластоцкія беларусы мала цікавяцца пабудовай Музея ў Гайнаўцы. З сорамам прызнаюся, што два гады мінула, калі апошні раз бачыў я гэты славуты аб'ект. Нічога тады дзіўнага, што калі я цяпер апынуўся перад гэтым будынкам, доўга не мог паверыць, што гэта той жа самы Музей, які я апошнім разам наведаў у 1993 г. Ясны тынк і арыгінальная архітэктура збудавання моцна вылучаюцца на фоне гайнаўскага жыллёвага будаўніцтва сямідзесятых гадоў. Кубатуры будынка магла б пазайздросціць нават не адна гандлёвая палата. Звонку Музей выглядае на нейкую элітарную ўстанову. Варта аднак заўважыць, што Музей яшчэ будуецца і трэба спадзявацца, што дзякуючы працы Камітэта пабудовы Музея яго эстэтычная вартасць з году ў год будзе ўзрастаць. Адпаведных слоў захаплення поспехамі будаўнікоў Музея не мог знайсці таксама консул Рэспублікі Беларусь Ігар Хадасевіч, які 23 лютага г.г. наведаў Гайнаўку. Павіншаваў ёй дырэктара Майсеню і падзякаваў за вялікую працу ў карысць беларускай супольнасці. Консул падчас пабыўкі ў Музеі сказаў, што адчувае ў ім атмасферу Бацькаўшчыны. Магчыма, што такое ўражанне выклікаюць беларускія мармуры і шмат іншых дэталяў на сценах калідора, зараз пры ўваходзе ў галоўны корпус. Сапраўды ёсць там шмат падабенстваў з унутраным убранствам менскага Дому літаратара.

Кастусь Майсеня паказаў нам таксама тую частку Музея, якую чакаюць апрацоўчыя работы. Чатыры агромністыя залы ў будучым памесцяць дзесяткі тысяч экспанатаў. Але пакуль што там толькі сцены. Спадар Майсеня дэталёва расказаў пра колькасць тон цэменту, цаглін, мармуру, кубаметраў дубовага дрэва, укладзеных да гэтай пары ў пабудову ўсіх будынкаў Музея. Прадставіў ён таксама аграмадныя патрэбы для завяршэння справы. Музей гэта не толькі будынкі. Неўзабаве трэба будзе думаць пра адпаведную агароджу і загаспадаранне наваколля. Хто ведае, ці Кастуся Майсеню не чакае яшчэ больш працы, чым ён да гэтай пары выканаў. Дапамагае яму Міхась Голуб, вядомы карэспандэнт „Нівы", і сябры з Гайнаўскага аддзела БГКТ. Дарэчы, будынкі Музея пабудаваны на бэгэкатоўскай зямлі і паводле цывільнага права з'яўляюцца яны ўласнасцю гэтай арганізацыі. Афіцыйна гэты комплекс не называецца „музеем", а толькі: „Музей і асяродак беларускай культуры". Некаторыя менскія і варшаўскія ўраднікі, а таксама дзеячы БГКТ, прапанавалі аб'явіць яго „Цэнтрам беларускай культуры ў Польшчы". Узніклі аднак пэўныя фармальныя перашкоды, якія не дазваляюць на здзяйсненне гэтай апошняй думкі. З розных прычын шыльду з назвай „Цэнтр" трэба будзе павесіць у Беластоку, што не павінна перашкаджаць у аб'яўленні Музея нейкім філіялам Цэнтра.

Пакуль што ёсць аднак пэўныя фінансавыя цяжкасці з працягваннем пабудовы, а ў будучыні непазбежна ўзнікнуць праблемы з аплатай коштаў утрымання будынкаў. Кастусь Майсеня робіць шмат чаго, каб прыдбаць дадатковыя сродкі. Між іншым плануе ў найбліжэйшым часе адкрыць кіно амерыканскіх фільмаў і кафэ-бар у той частцы Музея, дзе завершаны ўжо адпаведныя работы. Дамагаемся, — кажа старшыня Камітэта пабудовы Музея, — каб у нашым кіно былі не толькі амерыканскія фільмы, але таксама і польскія, а ў будучым і беларускія. Пакуль што разглядаюцца ўсе пункты кантракта з варшаўскай фірмай, якая гандлюе амерыканскімі фільмамі на відэакасетах.

Як паінфармавала прэса, у справе Музея 22 лютага г.г. вёў размовы з беластоцкім ваяводам віцэ-міністр культуры і мастацтва Міхал Ягела. Улады шукаюць крыніцы фінансавання гэтай пабудовы, а пасля забеспячэнне коштаў эксплуатацыі будынка так, каб не былі яны ў супярэчнасці з дзяржаўнымі законамі. Разглядаецца між іншым праект прызнання Музея дзяржаўнай установай, але патрэбнае ў гэтай справе пагадненне з кіраўніцтвам БГКТ як уласнікам інвестыцыі і Камітэтам пабудовы, які рэалізуе праекты.

Як пісаў пры канцы мінулага года менскі тыднёвік „Голас Радзімы", беларусы з усяго свету могуць ганарыцца гайнаўскім Музеем, які неўзабаве стане цэнтрам беларускай культуры ў Польшчы.

**М. Я.**

<u>На спартыўнай ніве</u>

## Найлепшыя

У Доме культуры ў Нараўцы адбыўся турнір па настольнаму тэнісу на кубак войта гміны. Удзельнічалі ў ім 28 вучняў пачатковых ды 23 вучняў сярэдніх школ, а таксама працоўная моладзь.

Сярод школьнікаў пачатковых школ найлепшых поспехаў дабіліся вучні Пачатковай школы ў Старым Ляўкове. Вось іх прозвішчы: Павел Аніщчук, Пётр Аніскевіч, Міхась Аніскевіч, Радаслаў Харкевіч, Міхась Сахарчук, Тамаш Харкевіч і Пётр Красноўскі. Кубкі атрымалі Павел Аніщчук і Тамаш Харкевіч, якія занялі першыя месцы.

Сярод старэйшай моладзі першынство заваяваў Яраслаў Краснапольскі з Нараўкі (ён, як пераможца турніру, атрымаў кубак), другое месца заняў Збігнеў Кучынскі з вёскі Свінарої, трэцяе — Роберт Савіцкі з Нараўкі і чацвёртае — Аляксандр Харкевіч з Міхнаўкі.

Варта дадаць, што рэчавыя ўзнагароды ды кубкі купіла Гміннае ўпраўленне ў Нараўцы. У акуратнае правядзенне турніру многа працы ўклаў дырэктар ГОК Андрэй Скепка.

**(яц)**

# Зорка
## старонка для дзяцей

## Для самых маленькіх

### Звоніць Кеша за мяжу

Кеша сеў мне на плячы.
Кеша мне ў плячо таўчэ:
— Давай трубку
Мне пад дзюбку!!!
Хоча наш папугай
Пазваніць у цёплы край
Да бацькоў і сваякоў
Ды знаёмых хлапчукоў —
Жвавенькіх негранят
Ды львянят і сланянят,
Малпянят і страусянят...
Кеша хоча пахваліцца,
Ён патомкам ганарыцца:
Выйшаў з яйка Кешаў сын,
Жаўтароцік Аладзін!
Шчыра з жонкай Сцешай
Цешыцца наш Кеша!

**Міра Лукша**

## Яны не пабаяліся прадметнага конкурсу!



Аня Сіманчук, Мажэна Антанюк і Аня Буслоўская — вучаніцы Пачатковай школы ў Трасцянцы. Нядаўна прымалі яны ўдзел у прадметным конкурсе беларускай мовы. Самую вялікую колькасць балаў атрымала Аня Буслоўская з сёмага класа. Каб трапіць на раённыя элімінацыі, трэба было назбіраць ажно 90 балаў. На жаль, дзяўчаткі на раённы конкурс не паедуць. Шкада, бо неўзабаве Аня і Мажэна пакінуць трасцянскую школу і пойдуць далей вучыцца. Яны васьмікласніцы. Хто ведае, ці яшчэ калі-небудзь будуць займацца беларускай мовай?

Затое Аня Буслоўская абяцала яшчэ раз прыступіць да гэтага конкурсу. Зразумела, за год. Тады да сустрэчы на цэнтральных элімінацыях!

**Ганна Кандрацюк**
**Фота аўтара**

## З вучнёўскіх сшыткаў

Мая сям'я не надта вялікая. У нас жывуць: я — Міколка, мой тата Кароль са свайі жонкай, мамай Міляй.

***

У цырку я бачыла жывёлу і звычайных сабак, і людзей.

***

Янка-музыка быў такім самым хлопцам як мы, але вельмі любіў іграць на скрыпцы.

***

Калісь людзям было вельмі сумна жыць, а яны думалі, што ім так весела.

***

Зоркі падаюць на зямлю, каб споўніліся нашыя мары.

***

Святочны дзень нічым не розніцца ад будзённага, толькі многа ў ім смачнай яды.

**Ірэна Салавей**

## Як узніклі нашы дзяржаўныя сімвалы?

Яшчэ ў старажытнасці, каб адрозніваць сваіх ад чужынцаў у часе ўзброеных сутычак, ужывалі знакі-сімвалы. У славянскіх плямёнаў такімі знакамі былі кавалкі пераважна чырвонай тканіны на дрэўку — сцягі, або харугвы. Каб не блытацца з аднаколернымі сцягамі, на іх малявалі асабістыя княжыя знакі, што звычайна паходзілі з паганскай сімволікі.

Беларускія войскі і княская ўлада ў полацкім перыядзе нашае гісторыі таксама карысталіся чырвонымі харугвамі.

У першай палове XIII стагоддзя на заходняй частцы Полаччыны пачало фармавацца Вялікае княства Літоўскае як працяг старажытнай дзяржаватворчай традыцыі беларускага народа. Успрыняўшы полацкую палітычна-эканамічную і культурную спадчыну, князі новае дзяржавы па-ранейшаму карысталіся чырвонымі сцягамі. А пачынаючы з Гедыміна іх дынастыя мела за герб відазменены „Трызуб" полацкіх Рагвалодавічаў, які пазней атрымаў найменне „Калоны" („Калюмны").

Дзяржаўным жа (уладарным) гербам Вялікага княства з другой паловы XIII стагоддзя сталася выява збройнага рыцара на кані — „Пагоня". Лічыцца, што на пачатку была яна гербам Полацка, а таксама Навагародка.

З пачатку XV стагоддзя на шчыце „Пагоні" ўжо сустракаецца шасціканцовы крыж з карацейшай верхняй перакладзінай. Такія крыжы былі тыповымі хрысціянскімі сімваламі на Беларусі ў XI—XIV стагоддзях. Першыя ж звесткі пра сцягі з выявамі „Пагоні" паходзяць з часу Грунвальдскае бітвы (1410 год).

З цягам часу ў Еўропе распаўсюдзілася традыцыя адзначаць на сцягу герб у выглядзе ўмоўнай каляровай палосы. Згодна з законамі геральдыкі, верхнюю частку сцяга павінны быў займаць колер гербавай выявы, а ніжэй змяшчаўся колер самога сцяга. Гэтак не пазней за пачатак XVI стагоддзя і ўзнік наш бел-чырвона-белы сцяг, дзе верхняя палоса — колер „Пагоні", сярэдняя — спрадвечны колер самога сцяга, а ніжняя— колер рыцарскага шчыта на „Пагоні" (адзначым, што, акрамя белага, былі і іншыя варыянты колеру шчыта; чырвоны, сіні). Найбольш старажытная выява беларускага сцяга захавалася па карціне, прысвечанай пераможнай бітве нашых продкаў з маскоўцамі пад Оршай (1514 год).

Пасля акупацыі Беларусі ў канцы XVIII стагоддзя Расейскай імперыяй „Пагоня" ўжывалася ў гербах некаторых беларускіх гарадоў і адміністрацыйных тэрыторый. Часам выкарыстоўваліся і колеры сцяга як знак адрознення вайсковых фармаванняў, рэкрутаваных з тэрыторыі Беларусі. Падчас антымаскоўскіх выступленняў „Пагоня" скарыстоўвалася паўстанцамі.

У 1918 годзе, з адраджэннем нашае дзяржаўнасці, герб „Пагоня" і бел-чырвона-белы сцяг становяцца дзяржаўнымі сімваламі Беларускае Народнае Рэспублікі. Пасля ўсталявання на Беларусі бальшавіцкага рэжыму, ужыванне нашай гістарычнай дзяржаўнай сімволікі жорстка каралася, ажно да працяглых тэрмінаў зняволення ў канцлагерах.

## ПЕСЕННАЯ ПАЛОСКА
### На вуліцы мокра

На вуліцы мокра, а на ганку суха,
Выйдзі, выйдзі да мяне ты мая
харашуха.
Ох, выйдзі, выйдзі, ох, выйдзі,
выйдзі,
Выйдзі, выйдзі да мяне ты мая
харашуха.

Ехаў я да цябе цераз чыста поле,
Сустракалі мяне дзеўкі ў зялёнай
дуброве.
Ох, сустракалі, ох, сустракалі,
Сустракалі мяне дзеўкі ў зялёнай
дуброве.

Адна дзеўка Ганна, другая Мар'янна,
А ты лепшая за іх, ты мая кахана.
Ох, ты кахана, ох, ты кахана,
А ты лепшая за іх, ты мая кахана.

Пакуль гаварылі, коней прытамілі,
Як паехаў да каханай, здаравенькі
былі.
Ох, як паехаў, ох, як паехаў,
Як паехаў да каханай, здаравенькі
былі.

## Скорагаворкі

Каму маку — каму макаку.

***

Патапка пакаваў пакупкі ў пакункі.

**З-ка.**



**Адгаданка-размалёўка:** Калі размалюеце паасобныя палі: рыску (-) чырвоным колерам, колка (о) — зялёным, крыжык (+) — сінім, трохкутнік (Δ) — жоўтым, а кропку (.) — чорным тады даведаецеся аб чым размаўляюць гэтыя дзеці.

# ЁЛКА Ў „МАЛАНЧЫНЫХ" ДЗЯЦЕЙ



*Дзед Мароз дае пачкі Матэвушу Карчэўскаму і Ігару Нічыпаруку.*



*"Неўзабаве нас пабачыце на сцэне".*



*Адна з наймалодшых удзельніц — Мартуся Маліноўская.*



*Супольныя танцы.*

Ці ўсе з вас ведаюць, што абазначае слова „маланка"? Напэўна бачылі вы яе не раз у час летняй навальніцы — на небе. „Маланка" гэта таксама гурт беларускай народнай песні з Бельска-Падляшскага. Мо чулі вы іхнія песні з касет, або ў беларускіх праграмах беластоцкага радыё?

У гэтым годзе ўпершыню сустрэліся на ёлцы (крышку спозненай) дзеці, якіх бацькі спяваюць і граюць у „Маланцы". І так, 15 лютага ў Бельскі дом культуры прыйшло 20 дзяцей. Наймалодшыя з іх не так даўно навучыліся ставіць першыя крокі, найстарэйшыя неўзабаве скончаць пачатковую школу.

Пакуль бацькі рыхтавалі пачастунак, дзеці глядзелі відэаказкі. Раптам стала вельмі ціха, бо ў дзвярах паказалася чырвоная шапка і сівая барада Дзеда Мароза. Малодшыя аж папісквалі ад радасці, старэйшыя спакойна чакалі падарункаў. Было чаго чакаць! Шакалад, пернікі, арэшкі ў шакаладзе, батон „Milky Way", халва, мандарынкі, чыпсы — гэта сапраўдныя ласункі. Потым пачаліся супольныя гульні і танцы. У гэты вечар дзеткам трапілася нагода пайграць на „дарослых" інструментах і заспяваць супольна з бацькамі.

Мо праз некалькі гадоў пачуем песні ў выкананні новага беларускага гурту — „Маланачкі"?

**Аліна Ваўранюк**
**Фота аўтара**

*Ян Баршчэўскі*

## Ваўкалак

У адной мясцовасці, недалёка ад горада Невеля жыў селянін; ведалі яго суседзі, і іншыя яго памятаюць, зваўся ён Марка; дзіўнае было ягонае жыццё; ніколі не бачылі яго вясёлым, заўсёды маркоціўся, быў неспакойны, быццам штосьці згубіў; любая грамада была яму не да душы. Калі людзі ідуць на кірмаш пагуляць, паскакаць або збіраюцца ў вольны дзень на ігрышча ля карчмы, дык ён, самотны, заўсёды ці то ў хаце, ці то блукае дзе-небудзь у полі — задумлівы і журботны.

Сёй-той пытаўся ў яго, чаму ён такі, і заўсёды Марка адказваў:

— Шмат я пакутаваў. Нішто мяне ўжо на свеце не займае. Памёр я для свету.

Мой сусед сябраваў з ім, і Марка яму так аднаго разу апавядаў пра сваё жыццё:

— Былі часы, калі і я быў вясёлы; аніводзін кірмаш, аніводная забава не абыходзіліся без мяне; гулі і скокі былі ў мяне ў галаве; але гэта не доўга трывала. Пазнаёміўся я з Аленаю. Гожая была дзяўчына, дачка заможных бацькоў. Упадабаў яе больш за ўсіх іншых дзяўчат, якіх ведаў; стараўся часцей яе бачыць, бываць у хаце ў яе бацькоў, паказваючы кожны раз маю прыхільнасць. Прыгарнулася і яна да мяне. Праз гэта маё няшчасце і прычынілася.

Багата хто да Алены заляцаўся ды хацеў за жонку ўзяць, а найпершы быў Ілля. Выведваў ён пра ўсё і дакладаў пану, за што і меў ад яго ласку. Пан яму ва ўсім больш дазваляў, чым іншым; у любую пару меў права рыбаліць у панскіх азёрах, танна купляў жывёлу і выгадна прадаваў; часта пасылалі яго ў горад купіць што-кольвек, і кожны раз ён нешта клаў у сваю кішэню. І гэтак, ашукваючы і абкрадваючы пана, зрабіўся Ілля багатым; меў шмат прыяцеляў і ласку ад пана, бо той меў яго за найвярнейшага слугу, любіў і верыў яму больш, чым каму іншаму.

Дык вось пасылае гэты пыхлівы Ілля сватоў да Алены, але атрымалі сваты гарбуза, бо яна прызналася бацькам, што не любы ёй гэты залётнік.

Ілля, пачуўшы пра гэта, кажа:

— Не Аленіна воля, а панская. Што не схацела рабіць па-добраму, зробіць па ўказу.

Пайшоў у маёнтак і дабіўся свайго: загадалі Алене ісці за яго замуж.

Суседзі, ведаючы пра маю прыхільнасць да Алены, смяяліся з мяне здзекліва, кпілі з мае някемнасці, з безразважнае любасці ды з адвагі, з якою хацеў я ўсіх, нават багатыроў, змагчы і Алену да шлюбу павесці. І няраз, разлаваны такімі з'едлівымі жартамі, адказваў я, што нядоўга Ілля мецьме панскую ласку, а грошы, сабраныя ашуканствам і крадзяжом, шчасця не дадуць, і Алена была б шчаслівейшая, каб выйшла за чалавека беднага, але пачцівага.

Дачуўся Ілля, што так пра яго кажуць, і паабяцаў помсціць, як толькі выпадзе нагода.

Надыходзіў дзень вяселля; бацькі Аленіны, ведаючы пра маё каханне да іх дачкі, сказалі мне, што волю панскую не пераменіш, хоць яна і несправядлівая і без усякае літасці; прасілі, каб пагадзіўся з лёсам, быў іх прыяцелем і прыйшоў на вяселле. Хоць і не ахвотна, але згадзіўся я на тое.

Вяселле было вялікае, гасцей болей, чым на кірмашы: маладыя — абое багатыры. Сабраўся люд з усяе ваколіцы, у некалькіх месцах на вольным паветры спявалі і пад музыку танчылі. Алена была ў шыкоўным строі, усе яе віншавалі, зычачы шчасця і радасці. Сам пан прыехаў на вясельную бяседу. Ілля яго прычаставаў; пан размаўляў з ім, пахаджаючы між вясельнікамі. Малады прыкмеціў мяне ў збоі гасцей (я стаяў сумны, бо мяне не толькі нішто тут не займала, а наадварот, уся гэтая весялосць наводзіла нудоту); ён глянуў на мяне са здзеклівай усмешкаю і пайшоў з панам далей.

Праз колькі часу падыходзіць да мяне дудар Арцём, пажылы чалавек, і кажа:

— Чаго сумуеш? Выпі са мною гарэлкі і будзеш весяліцца, як і іншыя, — бярэ мяне за руку і цягне да стала з поўнымі бутэлькамі і закускаю. Не адмовіўся я ад запрашэння. Мы выпілі па два кілішкі гарэлкі. Тут нехта незнаёмы, гледзячы на мяне збоку, сказаў з усмешкаю:

— Ну, цяпер ён паскача!

Арцём раптоўна мяне пакінуў, узяў сваю дуду і пачаў іграць, а на мяне яшчэ больш смутак напаў.

Не шмат прайшло часу, як падыходзіць да мяне мой сусед і, гледзячы мне ў вочы, кажа:

— Што з табою? Чаму твой позірк такі страшны, нібы ў звера якога?

Нехта яшчэ абазваўся:

— Ага, сапраўды, у яго вочы, як у ваўка, свецяцца.

І іншыя, што побач стаялі, таксама паўтаралі гэта і палахліва на мяне глядзелі.

Не ведаю, што рабілася са мною, але дрыжэў увесь. Здавалася, што гэтыя людзі зычылі мне чагосьці найгоршага.

*(працяг будзе)*

## Беларуская песня на амбоне

Традыцыйяй конкурсных аглядаў беларускай песні сталася, што большасць іх удзельнікаў прыязджала ў Беласток з паўднёвага напрамку. З поўначы прыязджалі бывала толькі выканаўцы з Грабянёў і Хільмонаў на Дуброўшчыне. Сёлета і іх не стала. Пэўнае свята на гэтую з'яву кідае выказванне Надзеі Дацэвіч з Мельніка.

— Напачатак наш калектыў налічваў дзевяць жанчын. Неўзабаве, аднак, адышлі каталічкі, заяўляючы што кацапскіх песень спяваць не будуць. Асталося нас чатыры. Адна выйшла замуж за католіка. Мужу беларускія спевы жонкі не перашкаджалі — перашкаджалі яны яго сваячкам і іх аднаверніцам; высілкі іх не далі аднак выніку. Тады да акцыі прыступіў ксёндз: такога змасаванага націску жанчына не вытрымала і адмовілася ад далейшай працы ў калектыве. Асталося нас тры, адна прыхварэла, і прыехалі толькі дзве. Быць можа гэта наш апошні ўжо ўдзел у конкурсе.

Значыць, рэлігійны функцыянер атрымаў дар Святога Духа дзеля таго, каб зняважаць родную мову сваіх вернікаў. Аднадумнікі арцыбіскупа Ялбжыкоўскага добра аднак справіліся на Сакольшчыне: старэйшае пакаленне яе сялян, якое вырасла ў датэлевізійную эпоху, гаворыць дома на сакавітай беларускай мове, аднак высунуцца з ёю публічна не асмеліцца. Ну бо як тады паказацца ў нядзельку ў касцёле, калі ксёндз даведаецца пра так грэшную вылазку?

**Аляксандр Вярбіцкі**
**фота аўтара**



*Надзея Дацэвіч і Мар'я Кяркові з Мельніка на фестывалю "Беларуская песня'95".*

## З дзённікаў С. Яновіча

**1991 - 08 - 20.**
(...) Быў у нас (у БДА) Гардон Уэтрэл, дарадца брытанскага пасла ў Варшаве. Руцінны разведчыцкі візіт. Але што рабіць? Не скажаш жа *вон!*, калі звоняць адтуль ды просяць аб гутарку (— цікавяць іх нашы адносіны да ўпадку Гарбачова).

**1991 - 08 - 21.**
Путч у Расеі пагашаны; Ельцына падтрымала і армія, яе руска-патрыятычнае афіцэрства, як думаю. Гарбачоў выратаваны, але не ўратуе гэта імперыю.

Ельцын цяпер прадыктуе будучыню СССР (сёння прызнаў незалежнасць Эстоніі). Расія ў вянку сатэліцкіх дзяржаў? — Беларусь у іх ліку.

— На Беларускім выбарчым камітэце. Сабралі ўжо дзесяць тысяч подпісаў, г.зн. 50%. Даюць рады хлопцы. Макс напісаў праграму (...).

Усё ідзе як трэба. Больш не мушу бываць на пасяджэннях. Нават не павінен — першыя *перастрэлкі* з праваслаўнікамі (Г. Чыквін надалей б'е ў мяне, распускае чуткі...).

**1991 - 08 - 25.**
Зноў панесла па барознах кабыла Гісторыі, што толькі паспявай лавіць вухам весткі! Што ў Антыбеларусі? Процібеларуская бальшыня ў парламенце БССР прымушана бегам падзей рэалізаваць суверэнітэт Рэспублікі (уключна з устрыманнем дзейнасці КПБ ды ўсялякімі дымісіямі ў вярхах (...).

**1991 - 08 - 26.**
(...) У рэдакцыі Макс паставіў бутэльку добрага іспанскага віна *Valencia* з нагоды апавяшчэння БССРам сякой-такой незалежнасці (што мы думаем пра яе — званілі да мяне з *Rzeczpospolitej, Sztandaru Młodych*, і радыёвяшчання; адказ: наменклатура не мае выйсця, хоць і антыбеларуская яна).

**1991 - 08 - 31.**
Здарыўся свайго роду пералом у беларускім руху: сабрана больш дваццаці тысяч подпісаў у падтрымку нашага выбарчага спіска, што дае шанц выйсця з ім нават у Польшчу! Я — ад пачатку кампаніі — усё ж не верыў у рэальнасць гэтага... Стаяў убаку, маючы ўжо даволі трыццаці пяці гадоў сваёй дзейнасці (...).

**1991 - 09 - 12.**
Дураць галаву *boys* з палітычнага сектара амерыканскага пасольства (Бамбэргер і нейкі новы хлопчык). Паводзяць сябе — як (...) не дыпламаты (...).

Апошні з важных сходаў Беларускага выбарчага камітэта меў непатрэбна драматычны ход (Юшчук як яго шэф аказаўся з-заду за развіццём сітуацыі). Па-першае, узяўся жаваць Сельвесюка з Целушэцкім за іх той палітычна несур'ёзны пратэст (лёгка нацкоўваючы аднадумную з ім публіку). Па-другое, упёрся ўвесці мяне на мандатнае месца, і каб не Стахвюк, незнарокам правалiў бы Ляшчынскага, нашу стаўку.

(...) У тайным галасаванні над чарговасцю прозвішчаў у краёвым спіску, чамусьці (амаль) усе ў камітэце зрабілі з мяне лідэра, аніяк не разумеючы, што ў Сейме трэба нам палітыкаў, а не мастакоў (слова), ці ідэолагаў (кім пакрысе я і ёсць, але не вышэй за жанр публіцыстыкі, эсэ). Маладыя, зялёныя (...).

**1991 - 09 - 24.**
— Доўга ў крынскім доме, тыдзень. Там і слухаў я радыётрансляцыю антыбеларускага парламента Беларускай ССР, які 19-га, даволі гладка, змяніў назву дзяржавы на: Рэспубліка Беларусь (13.07), але ўжо можна было расхварэцца, слухаючы дэбаты наконт змены сцяга і герба!! Урэшце прынялі тыя *тоже-белорусы* — бел-чырвона-белы і Пагоню (16.04). Як ні казаць, але падзея аж да слёз неверагодна праўдзівая!!!

Мне яшчэ і сёння не верыцца, што Беларусь ужо мае, нармальна, сваю атрыбутыку! (...).

Шостая за г.г. *Literatura* змясціла ўрэшце (-Сыскі) мой даклад з Казімежа *Polska polityka wschodnia w latach 1988—90*. Памылкі, памылкі, ажно страх бярэ даваць цяпер штолень у друк! (— *tłumaczono* замест *tłamszono*, *miedź* замест *młódź*, *niedopuszczenie* замест *niedopatrzenie*). *Syberii* замест *Serbii*, ах! (...)

*(Працяг будзе)*

*Тлумачэнні:*

*— Макс — сяброўская клічка Яна Максімюка, тады журналіста „Нівы"; ад рэдукцыі прозвішча: „Макс"-імюк;*

*— Пятро Юшчук, беластоцкі юрыст, аўтар статута БДА і іншых новых беларускіх арганізацый, іх юрыдычны кансультант і дзеяч;*

*— Маецца на ўвазе Васіля Ляшчынскага, дырэктара вядомай „тройкі" ў Бельску і палітычнага дзеяча;*

*— спомненая сесія Вярхоўнага Савета БССР праходзіла ў трагіка-камічным настроі: дэпутацкая большасць з камуністаў паказала сябе невукамі ў гісторыі ды культуры Беларусі;*

*— ганебна неахайная публікацыя даклада майго ў элітарным варшаўскім часопісе ілюструе шырэйшую з'яву ўсеагульнага заняпаду культуры друку ў Польшчы.*




*БАРЫС РУСКО*

## Голас сумлення

**1**

Цыбатыя рукі павіслі ў паветры,
не плачуць дзеці басаногія,
не маюць сіл,
каб слёзы свету паказаць.
Жывуць шкілеты
з пытальным зрокам,
у зямлю ўбітым:
чаму скупая?
Рана да сэрца,
а яно б'ецца,
каб твае вочы
сведчылі праўдзе.
Тут смерць-жаданне.
Дык нарадзіны былі навошта?

**2**

Іграюць скрыпкі
і трубяць трубы,
жалобны мітынг
на ўсёй зямлі.

**3**

Нясуць параненых.
У рад насілкі —
зямлю акружаць;
шарэнга крыкні —
і нас няма.
Дзе тое права —
калеч, забі.
Хто яго даў?
Мэта высокая —
карлікаў жарт,
калі апраўдвае
хоць адну смерць.
Яго няма ўжо,
ён у безнадзеі.
Высушыць сонца
кроў на зямлі.
К чорту на рогі
пісульку казённую —
„Героем загінуў",
а сэрца датла.
Дык нарадзіны былі навошта?

**4**

Маці ў малітве
акамянела
і словы выйшлі
з берагоў жыцця,
словы ў жалобе,
прыгожыя,
блізкія.
За супакой —
шчыруюць пеўчыя,
а мёртвыя
ў магільнай
ідуць цішыні.

**5**

Без ног дзяўчынка
чорнавалосая,
яшчэ не кеміць,
які ў яе лёс.
Без рук малодка
высакарослая —
бывай мой любы,
бывай любоў.
Белабароды дзед —
адно тулава,
валун дарожны —
не гаспадар.
Агонь у неба,
пад шлем Візантыі,
пад самы крыж.
А боль вялікі,
як зоркі чорныя;
а попел ціхі,
як святы дух.
Дык нарадзіны былі навошта?
Кат, на калені
перад сумленнем!
Ды ці ачысціць
такую дрэнь?
Мусіла быць так?
Так мусіць быць?

**6**

Між гарызонтам чырвань і чэрнь,
колераў іншых няма,
у зямлю ўтапталі.
Як мучацца кветкі,
каб нанава заквітнець.




Bednarczuk Leszek: Języki Wielkiego Księstwa Litewskiego na tle porównawczym. Wilno 1993. Rec. BROŃSKI Maciej, *Kultura* 1994, nr 9, s. 183 -186.

BERDYCHOWSKA Bogumiła: Raport w sprawie mniejszości. Rozm. przepr. Andrzej Franaszek. *Tygodnik Powszechny* z dn. 1.01.1995 r., nr 1, s. 3.

Choruży Wiesław: Białoruski drugi obieg w Polsce 1981 - 1990. Białystok 1994. Rec. KALINA Jerzy, *Kurier Poranny* z dn. 9.02.1995 r., s. 8; MILEWSKI Jan Jerzy, *Gazeta Tygodniowa* 19-26.02.1995 r., nr 4, s. 5.

ELEMENTY bałtyckie i wschodniosłowiańskie w przygotowywanym słowniku nazw terenowych północno-wschodniej Polski. Oprac. Nina Barszczewska (i in.), *Acta Universitatis Lodziensis Folia Linguistica*, Łódź 1993, z. 27, s. 3 - 8. Rez.

GŁOGOWSKA Helena: Białoruskie wydawnictwa religijne w II Rzeczypospolitej a białoruski ruch narodowy (w:) Naród a religia. Materiały z sesji naukowej pod red. Tadeusza Stepnera, Gdańsk 1994 r., s. 137 - 151.

GOMÓŁKA Krystyna: Próby białorutenizacji Cerkwi prawosławnej i Kościoła katolickiego w II Rzeczypospolitej. (w:) Naród a religia. Gdańsk 1994 r., s. 127 - 136.

GORCZYCA Mirosław: Mieszkalnictwo na Białorusi. *Wiadomości Statystyczne* 1994 r., nr 8, s. 37 - 38, tab.

HLEBOWICZ Adam: Białoruskie historie; Polem. KAZANECKI Paweł: Białoruskie historie inaczej. *Więź* 1994, nr 7, s.160 - 165.

HLEBOWICZ Adam: Poleskie opowieści. *Więź* 1994, nr 8, s. 167 - 174.

KONDRATIUK Michał: Elementy białoruskie i ukraińskie w ojkonimii polsko-wschodniosłowiańskiego pogranicza. *Acta Universitatis Lodziensis Folia Linguistica*, Łódź 1993, z. 27, s. 129 - 137. Rec.

SOCHACKA Anna: Białoruś, Białoruś... *Przekrój* z dn. 19.02.1995 r., nr 8 (2591), s. 11.

SKARADZIŃSKI Bohdan: Eksperyment białoruski, ukraiński i... polski. *Społeczeństwo Otwarte* 1994, nr 7/8, s.16 - 20.

TIAPKIN Jurij: Stadial'no-regional'nyj podchod v territorial'nom ustrojstve prigraničnych zemel' Pol'šy i Belarusi. *Ekonomia i Środowisko* 1994, z. 1, s. 61 - 71, rys. tab. Rez. Sum.

Zaniewska Teresa: Podróż daremna. Szkice o poezji białoruskojęzycznej w Polsce. Białystok 1992. Rec. RUDZIEWICZ Irena, *Borussia* 1994, nr 8, s. 226 - 268.

Zaniewska Teresa: A dusza jest na Wschodzie. Polsko-białoruskie związki literackie. Białystok 1993. Rec. RUDZIEWICZ Irena, *Borussia* 1994, nr 8. s.266 - 268.

**Р. С.**

# Аб малітве „Ойча наш”

(1)

Ёсць адна малітва, якая заслугоўвае на асаблівую ўвагу. Яе навучыў сам Ісус Хрыстос у адказ на просьбу вучняў: „Навучы нас маліцца” (Лук., 11:1). Настаўнік адказаў ім: „Калі моліцеся — гаварыце: „Ойча наш, які ў Нябёсах; няхай свяціцца Імя Тваё; няхай прыйдзе Царства Тваё; няхай будзе воля Твая як у небе, так і на зямлі; хлеб наш штодзённы дай нам сёння і даруй нам даўгі нашы як і мы даруем даўжнікам нашым; і не ўводзь нас у спакусу, але захавай нас ад зла-га”.

Гэта сапраўдная карона ўсіх малітваў, а яе змест — сінтэз Евангелля і хрысціянскіх праўдаў веры. Кароткі змест малітвы дайшоў да нас праз стагоддзі ў нязменнай форме, аднак, ейны змест інакш успрымае дзіця, інакш юнак, а яшчэ інакш дарослы чалавек. Такімі ж словамі розныя людзі ў розныя эпохі выказваюць розныя свае патрэбы. Малітва „Ойча наш” — універсальная і звышчасовая. У ёй скандэнсаваны і нашы сённяшнія галоўныя пытанні і праблемы і таму малітва заслугоўвае на глыбейшы аналіз.

Перш за ўсё ў якасці пралогу варта адзначыць адзін істотны факт. Менавіта чалавецтва ганарыцца вялікім прагрэсам у шматлікіх галінах навукі і тэхнікі, аднак не адчувае сябе шчаслівейшым, а значыць, чагосьці істотнага ўсё роўна яму не хапае.

Згаданы прагрэс сапраўды ашаламляючы. Мы ірвемся ўперад, узвыш, уніз, як найхутчэй, найвышэй, найвыгадней і гэтак далей. Безупынна праца спаборніцтва, мітусня, рух бы ў мурашніку, аднак калісьці мусіць узнікнуць пытанне: а на што ўсё гэта? дзеля чаго? а што потым? Над гэтым застанаўляемся зрэдку і неахвоча, аднак усё роўна мэта будзе для ўсіх адна. Раней ці пазней, хто ў ракеце, хто ў самалёце, а хто пехатою — усе дабягуць да аднаго месца, да магілы. Спрабавалі пакарыць космас, але атрымалася, што дастаткова двух квадратных метраў на зямлі. Кінуўся чалавек адкрываць тайны быцця і сусвету, аднак, многага дасягнуўшы, ні спакою, ні задавальнення, ні шчасця не знайшоў... Ужо амаль дзве тысячы гадоў таму амаль невядомы тады Настаўнік з Назарэта сказаў: „Якая карысць чалавеку, калі здабудзе ўвесь свет, а душы сваёй пашкодзіць?”

Сучасны чалавек сапраўды карыстаецца тым, аб чым нашы дзяды нават не маглі марыць. З другога боку няма амаль ніводнага вынаходства, якое не магло б акрамя пазітыўнага мець свайго негатыўнага аблічча. Сучасная авіяцыя зблізіла краіны і народы, але адначасова дазволіла бамбардзіраваць адлеглыя гарады і краіны. Атамная энергія выкарыстоўваецца ў мірных мэтах, але адначасова і ў прадукцыі ядзерных бомбаў, а што такое радыяцыя перапканаўся на сабе самім наш беларускі народ. Навука і тэхніка выявіліся двухбаковавострым мячом: прынеслі і карысць, і шкоду. На гэтым, бадай, палягае асноўны парадокс сучаснасці, што ўсе поспехі не гарантавалі чалавецтву ні паўсюднага дабрабыту, ні спакою, ні справядлівасці. У часе найбольшага разгулу матэрыялізму ў Францыі гучэў лозунг: „Хочам толькі зямлю, а неба ўступаем вераб'ям”, аднак войны, рэвалюцыі, гвалты і забойствы далей маюць месца на гэтай жа зямлі. Насуперак усім спробам, на ёй таксама далей лютуюць невылечныя хваробы, голад і катаклізмы, а чалавек напалоханы і бездапаможны не менш, чымсьці тысячы гадоў таму.

Атрымоўваецца, што ў якімсьці месцы чалавецтва памылілася. Толькі дзе? Дзе прычына зла, бо прычыны хваробы трэба ведаць, каб вылечыць недамаганне. Мабыць, галоўная прычына ў тым, што чалавек паўторна вырашыў пабудаваць вавілонскую вежу, аднак вынік будзе той жа, што і ў першы раз. Уся матэрыяльная культура не ашчаслівіла чалавека, які апрача цела мае таксама душу. Тэхнічны прагрэс запаланіў і прывязаў нас да зямлі, робячы зямнымі нашы намеры і памкненні. На трансатлантычным судне „Тытанік” віднеў надпіс: „Няма Бога, які здолеў бы яго затапіць”. На драўляным крыжы ля возера ў Татрах змешчаны надпіс: „Вышэй Бога няма нічога”. Супастаўце гэтыя два надпісы і зразумееце, у чым чалавечая памылка.

Падчас французскай рэвалюцыі ў шпіталі апынуўся акалечаны жаўнер без рук і ног. „Спачуваю табе, сябра” — прашаптаў усхваляваны капелан. „Не заслугоўваю я на спачуванне, — адказаў жаўнер. — Мы з сябрамі прафанавалі прыдарожны крыж і я першы шабляй адсёк Хрысту рукі і ногі... У часе першай жа атакі я ўпаў першы і прыйшлося адрэзаць мне рукі і ногі... Засталіся толькі вочы, і я бачу ўсю агіднасць майго паступка”. Падумаем, колькі ў нас на Бацькаўшчыне апаганена крыжоў і храмаў, колькі іх знішчана, перабудавана на склады, архівы або канцэртныя залы. Няўжо ў гэтым святатацтве ўдзельнічалі толькі адзінкі з кіруючых колаў? Гэты грэх на сумленні тысячаў людзей: тых, хто ахвоча выконваў злачынныя загады і тых, хто маўкліва ўсхваляў іх або нават не паспрабаваў сімвалічна супрацівіцца.

Іроніяй лёсу нашага народа з'яўляецца факт, што ён пайшоў за фальшывымі настаўнікамі і самазванымі пастырамі. Яны вырвалі з сэрцаў нябеснае, але не запэўнілі і зямнога. Прапаведавалі ваяўнічы матэрыялізм, але давялі да матэрыяльнай галечы.

Вось таму трэба зноў вяртацца да крыніцаў, да адвечнага фундаменту, да правераных ідэй, прызнаць першынство і найвышэйшую вартасць чалавека і яго душы. Хай Божая сіла будзе нашым лякарствам, хай Яго воля станецца нашай воляй, хай Яго запаветы стануцца для нас законам.

*(працяг будзе)*

**а. Канстанцін Бандарук**

# Нядзелі Вялікага Посту

**12.03 — Нядзеля 1-я. Свята Перамоўнасці Праваслаўя.** Яе пуцяводная думка — перамога над няпраўдай і ерассю. Гэтая нядзеля з'ўляецца святам *умацавання ў Праваслаўі.*

**19.03 — Нядзеля 2-я. Св. Рыгора Паламы.** Называецца яна нядзеляй святлатворных пастоў і з'яўляецца перш за ўсё святам манахаў-аскетаў. У сувязі з тым лічыцца яна мерай, якая можа выклікаць асвятленне людской душы тым святлом, якое адчулі і пабачылі вучні на Гары Фавор у час Праабражэння.

**26.03 — Нядзеля 3-я. Крыжапаклонная.** У сярэдзіне Вялікага Посту Царква дзеля падтрымкі аслабелых сіл дае вернікам Святы Крыж. Гэта знак бязмежнай Боскай любві Збавіцеля, які смерцю на крыжы здзейсніў нашае збавенне. З гэтай пары Крыж Гасподні з'яўляецца нашай галоўнай зброяй у змаганні з усялякім злом і дапамагае хрысціяніну лягчэй пераносіць і свой уласны жыццёвы крыж.

**2.04 — Нядзеля 4-я. Прап. Іаана Лесвічніка.** Пераадолеўшы першую палову Посту і дасягнуўшы нейкую духовую ступень, вернікам патрэбен аўтарытэт, каб не ўпасці ніжэй духоўнага ўзроўню, з якога пачыналі свой шлях. З'яўляецца ім Прап. Іаан Лесвічнік, ігумен Сінайскай Гары, якога царква прапануе праведнікам па духовых ступеньках лесвіцы, што вядуць да Бога.

**9.04 — Нядзеля 5-я. Прап. Марыі Егіпецкай.** З'яўляецца яна пацвярджэннем духовага ўзніцця з зямлі ў неба. Прыклад Марыі Егіпецкай паказвае нам, што сапраўднае паканне нават вялікага грэшніка можа давесці да святасці, а жыццё святой з'яўляецца доказам такога духовага адраджэння.

У першую суботу Вялікага Посту ўшаноўваем памяць Св. Фёдара Цірона; 2-я, 3-я і 4-я суботы — гэта дні памінання спачылых, бацькоўскія суботы, а 5-я субота Вялікага Посту — гэта субота Акафіста, услаўленне Прасвятой Багародзіцы.

**С.Н.**

# Нядзеля Праваслаўя

*(Іаан, 1:43-51)*

Першая нядзеля Вялікага Посту адзначаецца праваслаўнымі вернікамі як „нядзеля Праваслаўя”. У гэты дзень успамінаецца „дзень перамогі прававе'ра”, устаноўлены візантыйскай імператрыцай Феадорай у 842 годзе як свята канчатковай перамогі Царквы над усімі ератычнымі вучэннямі, у тым ліку над „іканаборчай ерассю”. Менавіта для чытання ў гэты дзень прыпадае ўрывак з Евангелля паводле Іаана. У ім гаворыцца пра назначэнне Хрыстом двух наступных, пасля Андрэя і Пятра, апосталаў — Філіпа і Нафанаіла. У адказ на заклік: „Ідзі за Мною!” Філіп без вагання стаў вучнем Хрыстовым і паклікаў Нафанаіла. „Мы знайшлі таго, аб кім пісаў Майсей і прарокі”, — абвесціў яму. У адказ Нафанаіл шчыра выказаў свой скептыцызм: „Ці ж можа быць што добрае з Назарэта?” Тады Філіп, не прабуючы яго пераконваць, сказаў: „Ідзі і паглядзі” і Нафанаіл, хаця і не пазбыўся сумненняў прыйшоў да Хрыста са шчырым жаданнем знайсці праўду і не расчараваўся.

Калі б Нафанаіл спалаўся на сведчанне тагачасных рэлігійных аўтарытэтаў, ён ніколі не трапіў бы да Хрыста. Ён стаў вучнем і апосталам толькі пасля сваіх роздумаў над прароцтвамі пад фігавым дрэвам і малітвы, у выніку якіх Дух Божы натхніў яго пайсці, паглядзець і ўсё самому зразумець. Сфармаваныя ў грамадстве стэрэатыпы і прадузятасці ў адносінах да некаторых асоб, нацый і з'яў шмат каму не дазволілі пазнаць праўду. Людзі пабачылі і не ведаюць; зняважліва або варожа ставяцца да чалавека, якога ніколі не сустрэлі, да краіны, якой ніколі не бачылі, да кніжкі, якой ніколі не чыталі. Яны не хочуць змяняць свае погляды і кажуць: „А што можа там быць добрае?” заміж, як Нафанаіл, „пайсці і паглядзець.”

У выніку назначэння Іаана, Андрэя, Сымона, Філіпа і Нафанаіла пакладзены быў фундамент хрысціянскай Царквы. Іаан накіраваў да Ісуса двух сваіх вучняў; затым Андрэй паклікаў свайго брата. Пасля гэтага Філіп прывёў Нафанаіла. Усе яны не затрымалі для сябе радаснай весткі пра знойдзенага Месію, але падзяліліся ёю са сваякамі, сябрамі і знаёмымі. На гэтым і палягае апостальства, да якога прызвана не толькі духавенства, але ўсе вернікі. „Ідзіце і навучайце ўсе народы... выпаўняць тое, што Я сказаў вам” (Матф., 28:20). Найбольш паспяховым шляхам здабывання новых вернікаў з'яўляецца наследаванне Хрыста ў сваім уласным жыцці, свой асабісты прыклад. Трывалы ўплыў на іншых не з'яўляецца вынікам красамоўства таго, што гаворым, але рэзультатам сваіх паводзін. Людзі могуць супраціўляцца і адкідаць нашы доказы, але ўзорнае, сумленнае жыццё будзе вырашальным аргументам. Вось таму сказана ў Евангеллі: „Гэтак няхай свеціць святло вашае перад людзьмі, каб яны бачылі вашы добрыя ўчынкі і ўслаўлі Айца вашага, які ў нябёсах”. Шматлікія людзі ўсё жыццё дэкларуюць сваю прыналежнасць да Царквы, але ніколі не прыцягнулі да яе ніводнай новай душы. Больш таго, яны знеахвоцілі тых, якія самі маглі б прыйсці або адагналі тых, якія ўжо прыйшлі.

Асабісты прыклад, як галоўная ўмова апостальства, неад'емна звязаны з добраахвотнасцю павярнення да веры. У пачатку XVI стагоддзя гэтак званая „евангелізацыя” Амерыкі адбывалася ганебным чынам шляхам грабяжоў, запалохвання і фізічнага знішчэння аўтахтонаў. Толькі чарговыя пакаленні індзейцаў атаясамліваліся з новай верай, але затое ўтоеная стагоддзямі нянавісць да накінутай народу веры, вылілася ў акты гвалтаў у дачыненні да каталіцкага духавенства і касцёлаў у 30-я гады гэтага стагоддзя ў Мексіцы.

Падобнае зведала і Беларусь, дзе спярша сілай навярталі ў XVI стагоддзі праваслаўных на уніяцтва, а пасля — у XIX стагоддзі гэтак жа вярталі уніятаў у праваслаўе. У ніводным выпадку не было Філіпавага закліку: „Прыйдзі і паглядзі”; сам ацані нашу веру паводле нашага жыцця, пераваγу нашай канфесіі над іншымі і вырашы сам, да якой з іх далучыцца. На жаль, практыка паказвае адваротнае: кожны сваё ставіць вышэй за чужое, але пахваліцца сам не маем чым.

У час Вялікага Посту, калі вернікі прызываюцца паклапаціцца пра ўласнае ачышчэнне, варта разважыць, ці і мы прыцягнулі кагосьці да Хрыста прыкладам свайго жыцця, ці можа наадварот — адпіхнулі.

**а. Канстанцін Бандарук**

# Акамянелая паненка

Кажуць, было гэта ў шасцідзесятых гадах у адной з беластоцкіх каталіцкіх вёсак. У апошні тыдзень Вялікага Посту дзяўчына ў час адсутнасці бацькоў рашыла наладзіць імянінны прыём. Моладзі сабралася шмат. Калі паелі і добра выпілі, рашылі патанцаваць. Імянінніцы не хапіла пары. Паглядзела на ікону Хрыста Збавіцеля і сказала:

— І ў цябе, Езуску, пары няма. Будзем танчыць разам! — і ўзяла абраз у рукі. Толькі тры разы абярнулася, як акамянела, стала, як стоўп.

Маладыя спужаліся і ўцяклі. Вярнуліся дамоў бацькі паненкі. Не памаглі плач ды малітвы. Не зварухнуць з месца было бедную дзяўчыну. Хацелі яе вырубаць з падлогі, але пацякла кроў. Пакінулі тады яе на месцы...

Шмат людзей прыязджала, каб пабачыць такі цуд.

Улады рашылі закрыць гэты дом. У друку, радыё і тэлебачанні паўтаралі, што гэта плёткі і забабоны беластоцкай цёмнай вёскі.

Можа нехта з чытачоў чуў аб гэтым? Ці сапраўды магло такое здарыцца?..

**Аўрора**

# Народнае мастацтва Беласточчыны

(3)

На ўскраіне Белавежскай пушчы і не толькі тут шырока бытуе ручная апрацоўка драўніны. Выкананыя народнымі майстрамі традыцыйныя прадметы штодзённага ўжытку, як талеркі, кубкі, апалонікі, лыжкі, а таксама капанькі і апалушкі сцісла звязаны з функцыяй, якую выконвалі з даўніх часоў і адгэтуль іх архаічныя формы. Цяпер яны ўжо адышлі са стала. Драўляныя лыжкі, міскі, сальніцы, якія некалі былі неабходнымі пры кожнай спажыве — перайшлі ў гісторыю, як помнікі загінуўшай культуры.

Народ, аднак, не так лёгка дазваляе загінуць таму, што было калісьці так блізкае чалавеку. Ёсць жа яшчэ народныя майстры, якія займаюцца вырабамі драўлянай пасудзіны і розных кухонных прылад. Ім патрэбны толькі пакупнікі.

Наведваў я і пісаў у „Ніву” пра Івана Садоўскага з вёскі Паўлы (Заблудаўская гміна), пра Міхася Баканача з Новага Ляўкова (Нараўчанская гміна) і пра шмат іншых. І. Садоўскі пачаў займацца вырабам драўляных кухонных прадметаў у 1967 годзе. Падгледзеў ён у суседа, як той рабіў драўляныя лыжкі. Паспрабаваў сам. І з той пары з-пад яго рук выходзілі прыгожыя і спрытныя вырабы, ажно дваццаці відаў.

### Дрэва ў быце чалавека

Пачаткова чалавек выкарыстоўваў драўніну, як паліва, а самародныя, магчыма, свядома абпаленыя часткі яе служылі яму простымі прыладамі. Натуральныя якасці дрэваў і лесу з цягам часу навялі на думку выкарыстаць галлё і жэрдкі для будавання нескладаных часовых сховішчаў. Разам з пераходам на аселае жыццё, чалавек пачаў ствараць больш складаныя пабудовы. Спосабы будаўніцтва і канструкцыйныя прыёмы прайшлі доўгі эвалюцыйны шлях перамен.

Да паловы XIX стагоддзя жылыя і гаспадарчыя будынкі з усім унутраным абсталяваннем, начынні, прылады працы (у тым ліку прылады да апрацоўкі глебы і патрэбнай у гаспадарцы сыравіны), сродкі транспарту — усё гэта абапіралася на выкарыстанні драўніны. Нягледзячы на тое, што з другой паловы XIX стагоддзя драўляныя прылады і начынні паступова замяняліся фабрычнымі вырабамі з іншых матэрыялаў, прысутнасць драўніны ў вясковых гаспадарках на Беласточчыне па сённяшні дзень застаецца значнай.

Зразумела, што не ўсё селянін мог зрабіць сам. Напрыклад, для вырабу бондарнага начыння, калёс, гнутых палазоў да санак аднаго ўмення не хапала. У малых і вялікіх сёлах ды ў шматлікіх мястэчках былі такія спецыялісты і майстэрні. Селянін купляў толькі неабходнае яму тое, што сам не змог зрабіць. Для палазоў да санак часта шукаў адпаведных самародкаў, на саху таксама падбіраў „рагач”, які пасля мінімальнай апрацоўкі верна яму служыў. Часта сустракаюцца яшчэ і зараз на сценах будынкаў прыстасаванні гнуць дугі. А што прасцей, як жывучы ля лесу, знайсці дрэва, у якім выгніла сэрцавіна, і зрабіць з яго адпаведнае начынне, пры дапамозе пешні і скоблі? Падобных прыкладаў знайсці можна многа.

Пашырэнне магчымасцей збыту спрыяла таму, што неабходныя промыслы пачалі хутка развівацца. Пры гэтым варта адзначыць, што спецыялізаваліся ў акрэсленых вырабах цэлыя вёскі. Так, напрыклад, у Рудутах каля Орлі жылі вядомыя з вырабу плеценых барон бароннікі, у вёсках каля пушчы, як Міклашэва, Калясное — калёснікі, там жа і ў іншых вёсках гнулі дугі. Падобна выглядала справа з бондарствам, рашотніцтвам і інш. У Арэшкаве і Лядах пераважна займаліся вырабам калёс, у Кузаве, Гукавічах і Талятычах — драўляных лыжак, у Крупіцах — рэшатаў, у Луцэ — кублаў на адзенне, у Васьках — кашалёў з бярозавай кары.

### Драўлянае дойлідства

Яшчэ не так даўно хапіла зайсці на сялянскі панадворак, каб пераканацца, што мы ў зачараваным каралеўстве драўніны. Усё, што нас акружала, было драўлянае, не ўпамінаючы ўжо аб дбайна зложаных пад падстрэшшамі ці ў дрывотнях запасах сухіх дроў, якія з'яўляліся асноўным палівам для ацяплення жылля.

Асноўнае месца драўніна займае ў будаўніцтве. Яна як будаўнічы матэрыял на нашай тэрыторыі пераважала ад вельмі даўніх часоў. Драўлянае дойлідства ахоплівала жыллё, гаспадарчыя пабудовы (хлеў, гумно, клуня, пуня, адрына, клець, варыўня, лазня) і іншыя архітэктурныя формы (брамы, сырніцы, калодзежы, абарогі і г.д.). З яе будавалі палацы, двары, замкі, грамадскія пабудовы — корчмы, шынкі, магазіны, ратушы, крамы або іх комплексы, млыны — вадзяныя і два тыпы ветракоў (стрыжнявыя або інакш козлавыя, і шатровыя).

Асаблівае месца займае культавае дойлідства. У храмавых пабудовах выявіўся сапраўдны геній народных майстроў, якія стварылі пры дапамозе абмежаваных мастацкіх сродкаў здзіўляючыя прыгажосцю збудаванні. Да іх трэба аднесці цэрквы, касцёлы, бажніцы, капліцы, званіцы, прыдарожныя каплічкі з культавай разьбой, крыжы.

У народным дойлідстве пераплятаюцца розныя плыні агульначалавечай архітэктуры і розныя стылі. Пры гэтым тэхнічныя і мастацкія прыёмы аднесна кансерватыўныя, прыходзілі яны ў народную архітэктуру з пэўным спазненнем. Назіраюцца тут значныя адхіленні ад стыляў сваіх прататыпаў, свядомая дэфармацыя іншаземных узораў. Кожны майстар, які будаваў па заказу акрэсленыя будынкі, хацеў выявіць свае здольнасці, пахваліцца, і таму яны сведчаць аб айчынным узроўні нашай архітэктуры, тэхнічнай і мастацкай творчасці.

Варта пры тым адзначыць, што чыстай народнай культуры наогул не бывае. Наша народная культура — гэта сплаў розных, не толькі суседніх культур, але і значна ад нас аддаленых. Усе чужыя элементы, якія былі ўспрынятыя, пераасэнсоўваліся па-свойму, на свой лад і спосаб мышлення.

*(працяг будзе)*

**Янка Целушэцкі**

## З гарматай на камара

Камар як камар, яму найбольш меткая гармата з найвялікшымі ядрамі нястрашная (больш пацерпяць большыя аб'екты, што паблізу вышэйзгаданага). Але калі пра яго штодзень будуць пісаць і гаварыць найгоршае, каб апраўдаць скарыстанне гарматы: што ён — брыдкая, немаральная свіння, і як слон, як карабель, як айсберг па велічыні сваёй шкоднасці, тады, вядома, у такое могуць паверыць не толькі адзінкі, але і цэлыя адурманеныя народы, нават калі „інфармацыі” будуць звычайнай, відавочнай голым вокам лухтой. А якога ж той камар заступніка, адваката знойдзе ў стэрыльным свеце, які гідзіцца такіх паганых крывапіўцаў? Нават непрыстойна ставаць у абарону прапашчага! Ды і інтарэсы „нашых” і камара маюць кропку сутыкнення. Вось у чым справа! Але рацыю мае заўсёды мацнейшы, бо ў яго руках ёсць ружжо, або і больш магутны інструмент — **слова**. Яно здзьмухне кожнага „камара” з большай сілай, чым ударная хваля ядзернага выбуху. Вокамгненна! Мала таго — паганая гібель суперніка і перамога „чалавечай” рацыі будуць увекавечаны, і цытавацца будуць усюды, прыводзіцца пры розных нагодах, а будуць вырваны са старонак, выразаны, выцерты, выпалены з агульнай памяці дзе-нідзе захаваныя піскі ў абарону пабітага. Ну і што, што продак нашага камара пакусаў быў у свой час кабылу Гейнрыха, калі сёння і Гейнрых, і ягоная кабыла засталіся ў рэшце рэшт пераможцамі?.. А яшчэ праз 10—20 гадоў будуць яшчэ якую праўду пісаць пра даўганосую погань, якая па-авантурысцку сама лезла пад хвост лагоднай кабыле, што міралюбіва паслася не ў шкодзе, а на ўласным, прыватным лужку дбайнага гаспадара Гейнрыха, а іншую праўду ведаць будуць толькі тыя, што пайшлі ўжо ў магілу!

У пераможцах у сапраўднасці ёсць гармата, чыя б яна не была і ў каго не біла. Яна, безудзельная, ёсць нешматлікай рэччу (а, можа і істотай, калі верыць, што і ў рэчаў ёсць свая душа), у сапраўднасці нявіннай у свеце гвалту і прыніжэння, нянавісці, маны і „аб'ектыўнай” праўды. Можа рухаць гісторыяй, безудзельна лежачы на лафеце. Страляе, але „кулі Бог носіць”. А найбольш сумленная — імперская аграмадная Цар-пушка, якая ніколі не выстраліла, ці то па віне канструктара, ці выканаўцы, ці сведчачы пра сапраўдную нямоглась імперыі (калі ў гарматы ўсё ж ёсць свая душа).

Сапраўднага камара так сканструявала натура, каб піў для жыцця і здароўя чалавечую ці жывёльную кроў. Але назваць яго дэгенератам і крывапіўцам — аж смешна. Не тая стылістыка, не тая вага. Але ў палітыцы выкарыстаць можна ўсе прыёмы. І робіцца нясмешна, калі чуеш толькі пра „камаровую” небяспеку і крыважэрнасць, бо пачынаеш у гэта верыць, а на экране бачыш сто разоў паўтораныя кадры з ахвярамі жорсткага крыважэрніка.

Бррр! Дай нам, Божа, заўджы бачыць усё ў адпаведных прапорцыях і здалёк знюхаць, які стырнавы стаіць за смярдзючай лухтой і манойі якія ў яго мэты!

**Вандал Арлянскі**

# РАДЗІМА — РОДЗІНА

**Частка І**

Пачынаючы з 1970 года я правёў шэраг размоў, галоўным чынам з жыхарамі ўласнай вёскі — але не толькі — на тэму Айчыны, Радзімы, Бацькаўшчыны. Хаця гэта для мяне і не было навіной, аднак з прыкрасцю яшчэ раз я пераканаўся, што такія тэрміны як *Айчына, Радзіма, Бацькаўшчына* не ўжываюцца беларусамі з усходняй Беласточчыны ў адносінах да роднага краю. Трэба сказаць аднак, што слова бацькаўшчына выступае сярод вясковых беларусаў досыць часта, аднак не мае яно агульнакраёвага значэння, нягледзячы на адсутнасць гэтых тэрмінаў у дыялектах ва ўсходняй Беласточчыне. Мясцовыя беларусы ведаюць, чаго яны датычаць і якое іх значэнне. Разуменне і трактоўка гэтага пытання досыць адназначна і, па-мойму, досыць яскрава былі адлюстраваны ў выказванні майго бацькі, які ў 1971 годзе сказаў: „У нас то ніхто тут ні говорыт ні айчына, ні радзіма, ні бацькаўшчына. У нас людзі тут усюды говорат родзіна, а чаму яно так, то я ні знаю. От, калі я з фронтам адступаў праз Беларусь у 1914 і 1915 року, то я там ні раз спатыкаў такіе слова як айчына або радзіма, а тут у нас так ні говорат.

Ну, а што касаецца слова бацькаўшчына, то яно ў нас выступае але касаецца ні да цэлаго беларускаго краю, але толькі да таго, што мы дастаем ад сваіх бацькоў. Напрыклад, часто аб сваім падворку гаспадар говорыт: „мая бацькаўшчына”. А найчасцей то пра бацькаўшчыну говорат тые маладзіцы, што выходзячы замуж досталі ад бацькі кусок поля або лонкі. Ну то такая маладзіца да канца жыцця будзе гаварыці, што яна ідзе жаці, капаці або грабсці сена „на бацькаўшчыну”. Значыцца, на той кусок зямлі, каторы дастала ад бацька”.

У падобным духу выказваліся на гэту тэму таксама многія іншыя мае сялянскія субяседнікі. І так, амаль усе вясковыя жыхары гаворачы пра родны край называюць яго родзінай.

Мой дзядзька, Пётр Баршчэўскі, які ў першую сусветную вайну служыў у Балтыйскім флоце, а ў часе грамадзянскай вайны папаў аж у Сібір, дзе быў уключаны ў калчакоўскую армію, выказаўся на тэму радзімы наступным чынам:

„Бачыш, яно выглядае так. У школу то мы тут за цара хадзілі ўсяго па пару зімаў, от так-сяк вучыліся чытаці і лічыці і гэто ўсё. Ніхто там нас ні вучыў любіць свой край. Ты ж напэўно знаеш, што ў палякаў то вельмі моцно гэтаю справаю займаюцца ксяндзы, а нашы духоўны то ні нажымают на гэто дзело. От, калісь да першае вайны то ў цэрквах маліліся і за цара, і за Расею, але я ніколі ні чуў, каб каторы там поп маліўсе за Беларусь. Ну, а бацькі дзяцей то таксамо ні вучат гэтае штукі, значыт ні аб'ясняют, што родзіна то павінна быць найважнейша ў цэлым нашым жыці. Бачыш, такая ўжэ была наша судзьба. А цяпер то ты думаеш па-другому робіцца? Цяпер то яшчэ горш чым было. Калісь то хоць усе бацькі да малых дзяцей гаварылі пабеларуску, а цяпер пагляддзі, ні толькі ў гарадах, але і ў вёсках пачалі да дзяцей ад калыскі гаварыці па-польску. А ты глянь, што робіцца ў Беларусі. Там жэ ж ніхто па-беларускі слова ні скажэ. Ездзіў мой Шурык і Жэня да сваякоў у Масты і ў Мінск, і што ты думаеш, говорат, што там нідзе ніхто нават словам беларускім ні брэнкне. Усе па-руску шчэбечут.

Ну, а што касаецца мяне, то я табе скажу так. Мяне то любіць сваю родзіну — Беларусь навучылі рускіе. А знаеш, як навучылі? Калі мяне прызвалі ў рускую армію ў 1914 року, то аказалася, што я вельмі здаровы і сільны чалавек і таму мяне направілі ў Балційскі флот. То як я тады думаў пра родзіну? Ну, думаў, што я праваслаўны, значыцца рускі і мая родзіна Расія і ўсё. А тут аказалася, што яно ні так. У нас на караблі на 85 чалавек каманды, усе былі рускія і толькі нас двох беларусаў з Гродзеншчыны. То вядомо, што мы па-руску гаварыці ні ўмелі і гаварылі па-своему, па-просту. То значыцца, гэтыя рускія пачалі смяяцца з каждаго нашаго слова. Скажэш бывало ні *солнцэ*, а *сонцо*, а яны ўжэ на неба крычат: „Сонцо, куда пошел!” „Сонцо, к капитану!” Скажэш ні *жопа* але *срака* і ўжэ цэлы карабель Сракаю цябе называе. І от, такім спосабом яны нам выбілі з галавы тое, што мы рускіе. І толькі ад таго моменту я пачаў аб сабе думаці як аб беларусе, а ні аб рускім. І толькі там я паняў, што мая родзіна гэто ні Расея, але Беларусь. Ну, але вядомо. што чалавек ні меў ніякае падздержкі. Я ж ані ў флоці, ані после ў Сібіры ні бачыў ані аднае беларускае кніжкі чы газэты. Чуў, што беларускіе дзеяцелі збіралі беларусаў па Сібіры, але сам з імі ні спаткаўсе.

Так што бачыш, як яно бывае, рускіе мяне адбілі ад Расеі і папхнулі ў бок Беларусі”.

**Алесь Барскі**

# Гайнаўскія аракулы

Нейкіх дванаццаць ці колькі гадоў таму, калі Польшча збіралася выходзіць з „ваеннага стану” і неяк трэба было акрэсліць месца прафсаюзаў у дзяржаве, улады вырашылі стварыць прафсаюз зусім новенькі на месца „старых”. Каб паказаць, што гэтая ідэя карыстаецца грамадскай падтрымкай, у тэлеэфір пусцілі „кліп” у якім нейкая Ірэна (прозвішча ўжо не помню; помню толькі, што яно было „тутэйшае”) з Гайнаўкі выказала ad hoc вывучаную фразу, што такія менавіта новыя прафсаюзы вельмі ў Польшчы патрэбныя. На пытанне рэдактара „навошта?” яна вельмі прытомна адказала „no bo w ogóle”.

Свежанькай мінуўшчынай у „Газеце Всплучэснай” паказаўся ліст „жыхароў” той жа самай Гайнаўкі, з якога вынікала, што яны выказваюць погляд, што ў Беластоку непатрэбны ніякі цэнтр культуры для беларусаў, бо ў іх скромненькім горадзе тэкс, беларускі, цэнтр культуры ёсць ды яшчэ не абы-які: многія метраполіі такіх не маюць!

Гэта вельмі добрая думка „гайнаўчан”! Гэта ж развязка бадай усіх праблемаў, з рашэннем якіх змагаецца чалавецтва!

Возьмем для першага прыкладу такую вайну ў Чачні. Яе магло б зусім не быць, калі б ваяўнічыя бакі мелі свядомасць, што ў Гайнаўцы жывуць мудрацы, якія вельмі проста ўмеюць рашыць кожную, нават вельмі складаную, праблему. То ж калі б Джахар Дудаеў заявіў ім, што хоча самастойнасці, „гайнаўчане” адказалі б жа яму адразу: „Едзь, Джахарыку, у Швейцарыю — там самастойнасці, што золата ў банках!” А калі б Барыс Ельцын захацеў, каб ува ўсіх ягоных уладаннях шанавалі правы чалавека і другія законы, нашы высакамудрыя землякі адказалі б яму: „Плюнь ты, Борык, на гэты свой Крэмль і едзь у Швецыю — там правоў чалавека колькі толькі хочаш і якіх хочаш. Выбірай-перабірай!” А калі б прэзідэнт Лукашэнка параіўся нашых „гайнаўскіх” прарокаў, мог бы такому дэпутату Антончыку адказаць, напрыклад, наступнае: „Не нравится коррупция? Езжай в Антарктику, там её и в помине нет!” А яшчэ, калі б захацеў выступіць у катэгорыі дуэтаў са сваім варшаўска-вясковым цёзкам, мог бы журналістам, якім задумалася б апублікаваць нешта нявыгаднае, заявіць: „Езжайте на Луну и там пишите в этих своих газетах что вам только набредёт на ум — там, насколько нам известно, это не запрещено. А в наших газетах чуждых нашему народу песень не разрешим заводить!”

І так можна было б адпраўляць неспакойны люд у шчаслівыя краіны: адных у Амерыку, другіх на Салаўкі, трэціх на Калыму ці ў іншае Эльдарада.

Баюся толькі аднаго: ці „гайнаўскія” прарокі заўсёды, як дэльфская Піфія, знаходзілі б правільныя рашэнні. Ну бо што гэта было б, каб падказалі яны нешта не па думцы заказчыкаў?

А нашы шаноўныя беластачане, калі ім прыйдзе думка нешта па-беларуску заспяваць ці паказаць, няхай сядаюць на аўтобус (бо маршрут цягніка не так даўно скасавалі) і карыстаюцца на-мёкам на гасцярадаснае запрашэнне нашых „гайнаўскіх” дабрадзеяў. І там хай сабе спяваюць колькі толькі хочуць і што хочуць

**Адам Маньяк**




Астроне! Такі дзіўны сон мне яшчэ не сніўся. Трапіў я ў дзіўны свет, быццам пад зямлёю. Было там вельмі прыгожа, быццам у нейкім палацы. Перапыніў мяне нейкі мужчына і сказаў, што дасць мне незвычайную сілу — напрыклад, змагу хадзіць па сценах. І я адчуваў, што ўжо маю гэту сілу — хадзіў па сцяне, з многімі біўся (паспяхова!). Я па дарозе клаў усіх. Як біўся, дык, хаця важыў цэлую тону — што аж зямля дрыжала, бег хутка.

Пасля я іду ў нейкай вялізнай зале. Там на канапах ляжалі на плячах, задраўшы лапы ўверх, персідскія каты. Спачатку я думаў, што яны мёртвыя. Але раптам яны пачалі падымацца, і я бачу, што яны вялізныя, як ільвы. Адзін стаў каля мяне — быў вышэйшы за мяне. Але я прайшоў між імі, і яны мне нічога не зрабілі.

Пасля вяла мяне нейкая жанчына — гаспадыня гэтага палаца, мо каралева, гадоў каля сарака. Прыгожая! Я ведаю, што не павінен быў за ёю ісці, але яна мне абяцала, што таксама дасць сілу, а да таго была прывабная — дык я ішоў.

Рашыў, што выйду адсюль. Ля дзвярэй сустрэў групу каратэкаў. Адзін з іх кінуўся на мяне, а я яго паваліў. А ён мне і кажа: „Як смееш, я ж — ксёндз-пралат!” Але я не звярнуў на гэта ўвагі і выйшаў.

Што будзе, Астроне?

**Алег**

Алег! Нягледзячы на прыгажосць і палаца, і дамы, якая цябе суправаджала, падсцерагае цябе небяспека. Пра гэта сведчылі б тыя ажываючыя каты, а што былі вялізныя, як ільвы, то і пагражае табе нешта надта кепскае. Тое, што ты біўся з усімі направа і налева, не дадае табе надзеі на нешта добрае — наадварот, абазначае нейкую страту ці хваробу, — адным словам, смутак. І на дадатак той ксёндз-пралат, якога ты ўзяў за каратэка, таксама прадвяшчае нейкую сумную навіну.

Можа, аднак, тая сіла, моц, што ты адчуў у сабе, дапаможа табе пераадолець небяспеку.

**АСТРОН**

# КРЫЖАВАНКА



**Гарызантальна:** польская гранічная рака, 8. расейскі пісьменнік (1860—1904), 9. палоска каляровай тканіны, 10. калючае пустазелле, 11. лётчык, 13. бязволле, абыякавасць, 15. інфармацыя аб здарэннях, падзеях, 16. боязь, 20. жывапісны ўзор з рытмічна размешчаных элементаў, 22. невялікая расліна, 23. расліна сямейства асаковых, 27. мястэчка на Беласточчыне, 29. сцёблы пасля абмалоту, 30. горад на поўначы Беларусі, 31. заступніца навук і мастацтваў, 32. трапічная птушка сямейства бусламых, 33. горад на поўначы Чылі, 34. частка галавы.

**Вертыкальна:** 1. перажытак, 2. канаўка, равок ад плуга, 4. заможнасць, 5. хімічны элемент н-р 85, 6. мястэчка на Беласточчыне, 7. рэзкі гук, які ўзнікае пры трэнні, 12. сярэдняя школа, 14. геаметрычная лінія, 16. гатунак, 17. даўняя назва тэрыторыі ўсходніх славян, 18 парыжская рака, 19. сіцылійскі вулкан, 21. канец, завяршэнне, 24. не брат, 25. расліннае упрыгожанне, 26. рынак, 27. крык некаторых птушак, 28. частка вупражы.

**(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 4 н-ра:**

**Гарызантальна:** Ларыса, Чаплін, Радары, гара, пара, капіталіст, вада, арба, размен, камуна, кандак.

**Вертыкальна:** Ладога, Сара, мары, Індура, дальтанізм, ракада, пастар, валока, батрак, рана, Енка.

Кніжныя ўзнагароды атрымоўваюць: **Мікола Красоўскі** з Бельска-Падляшскага і **Галена Тапалянская** з Трасцянкі.




## Лес

Лес! Люблю цябе, паважаю
Бо дакладна знаю:
Ты наш ратунак —
Кожны твой гатунак!
Ты стваральнік кіслароду
Ад вякоў для прыроды.
Ты ачышчальнік паветра
Што гразь нясе з ветрам.
Ты прыгожы, казачны
Бо верны і парадачны.
Павінны мы цябе шанаваць,
Ад усякай бяды пільнаваць.
Пільнаваць як найлепшы скарб —
Ты гэтага варт!
Як удзень так і ўначы
З дапамогай лесу спяшы!
Ратаваць пакуль яшчэ не позна
Бо можа здарыцца рознае,
Даглядаць як зрэнку вока
Не мінаючы бокам.
Ратаваць ад агню і зладзейства
Сёння іх час — каралеўства.
Лес патрабуе спагады;
Шануйма лес — нам на радасць.

**Мікалай Панфілюк**

## Прыказкі і прымаўкі

Хто перад Калядой добра даглядае, той перад Вялікаднем за хвост не падымае.

Есць за вала, а робіць за камара.

Колас, што зярнят не мае, дагары лоб задзірае.

Хоць зад апёк, але ў крапіве пасядзеў.

Салаўінымі песнямі не будзеш сыты.

Ваду вары — вада будзе.

Не шукай поля ўрадлівага, але суседа ўзычлівага.

Спадзяваўся дзед на мёд — пайшоў спаць не еўшы.

Няпраўдай свет пяройдзеш, але назад не вернешся.

Запісаў
**Ясень**

# Такі характар

Неяк няўдала складалася жыццё Пракопа. Хлопец быў прыгожы, і з нябеднае сям'і, але неяк не ішло да таго, каб ажаніўся.

З Параскай быў ужо сасватаны, і яе бацькі прыязджалі ў агляды. Ужо дамовіліся наконт вяселля — і пшык, тыдзень да вянца прыехалі Парасчыны родзічы, аддалі пяць злотаў утраты, сказалі, што перадумалі, і дачкі Пракопу не аддадуць.

Пракоп хваляваўся. Усе суцяшалі яго — малады, паспее. Усё ж перад ім.

Праз год пасваталі яму Райку. Усё ішло да вяселля, усё падрыхтавалі, а ў суботу перад кавалерскім вечарам на табе: прыходзяць Райчыны дзядзька з цёткай і кажуць: „Наша Райка не хоча за цябе ісці, а мы яе няволіць не будзем! Бярыце дзесяць злотаў утраты і бывайце здаровы!” Адказаць гасцям не паспелі. Усе сваякі прыехалі, а тут плач, а не вяселле! Маці з сёстрамі галосяць, а сам Пракоп сядзіць ды ў акно глядзіць.

Маўчаў з месяц. Урэшце сказаў бацькам, каб яго не сваталі, бо шчасця не мае і ўвогуле, пэўна, не ажэніцца.

Сёстры павыходзілі замуж. Пракоп жыў адзін. Прыйшла вайна. Узялі Пракопа ва Усходнюю Прусію. Там пазнаёміўся з Паўлінай — украінкай. Вярнуліся ўдваіх у родную вёску Пракопа. Зрабілі вяселле.

Калі нарадзілася ім Марыся, пачалі будаваць новы дом. Хату накрылі страхой, як памёр Пракопаў бацька, а праз паўгода адышла і маці. З Пракопам нешта здарылася — стаў абыякавым да сям'і. Паўліну трактаваў як парабка — усё выдзеліць, а работы дае як найбольш. А сапраўды кахаў дачушку.

Працаваў салідна. Грошы трымаў сам, сам усё купляў. Паедзе на кірмаш, прадасць нешта. Купіць модную тканіну. Дома пакладзе набытак на стол, не пытае жонку, што скажа, толькі ідзе з хаты. Паўліна ідзе тады да Пракопавай сястры і просіць: „Ідзі, Каця, спытай Пракопа, каму ён гэта купіў. Мне ён нічога не сказаў, а самой браць нельга, бо зараз аблае”. Каця зноў высылае дачку з сынам. „Дзядзька, вы сёння, мусіць, на кірмашы былі?” — пытаюцца дзеці. „Быў”. „Мусіць, нешта там купілі, бо мы бачылі, як за вашым возам ішло цяля? Прадалі вы яго, праўда?” „Купіў. Во, паглядзіце, што на стале ляжыць”. „А для каго вы гэта купілі?” „Для Марускі. На новую суконку”. „А гэты — каму?” „А гэты — ёй! Няхай нясе да Надзі і шые. Не купіш бабе чаго новага, то што людзі скажуць?!”

„Кепскі характар у нашага Пракопа, — наракала сястра. — Можа тыя, што за яго не хацелі ісці, прадчувалі? Што з таго, што прыгожы, калі дабра ў ім няма!”.

**Аўрора**




“Niwa”
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok,
skr. poczt. 149, tel. 421-033.

Druk: “ORTHDRUK”, Białystok,
ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Мірaслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Міранович (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:**

**Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.**

Prenumerata.

1. Termin wpłat na prenumeratę na III kwartał 1995 r. upływa 20 maja 1995 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały "Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na III kwartał wynosi 6,50 zł (65 000 starych zł).

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Warszawa, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1,10 zł (11 000 st. zł), a kwartalnie — 14,30 złotych (143 000 st. zł). Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

# ПАРОДЫІ

*Мужчыны на поплаве важна*
*ляжалі,*
*махорку курылі і нешта жавалі.*
**(Ян Чыквін, Яздок без сядла)**

Дзянёк быў святочны. Мужчыны
пад крамай
Махорку курылі і моўчкі стаялі.
Маўчалі, маўчалі, аж нехта з іх кажа:
— Не трацьма так часу, давайце
пакажам,
Што мы лепш, чым бабы, гарланіць
умеем
Як горла памажам агністым алеем!
Без слова пратэсту ўсе скідку зрабілі,
Прынеслі закуску, гарэлку купілі
І выйшлі за краму, на поплаве селі
І тосты ўздымалі, пілі там і елі.
Пра ўсё гаварылі, раз многа, раз мала,
І скора так выйшла, што пойла
не стала.
А хлеб аставаўся, часнок і сланіна...
Рашылі ўсе дружна хлябнуць яшчэ
віна.
І зноў гаварылі, і песні спявалі,
Вінцо папівалі, сланіну жавалі.
А сонейка грэла і траўка шумела.
Пры добрай пагодзе ў галовах даспела
І цяжкімі сталі як колас наліты,
І ў траўку прылеглі з вінам недапітым.
І быццам снапы пасля жніва ляжалі,
А мухі навокал закускі лятали.

**Адам Маньяк**

### ПРАБЛЕМЫ З ПАШТОВЫМІ СКРЫНЯМІ

*Губляюцца пісьмы*
*У скрынях паштовых...*
*................*
*і ўсё ж давяраю*
*Я сіняй той скрыні...*
**Мікола Мельнікаў**

Губляюцца пісьмы
У скрынях паштовых
Не толькі ў старых,
Але нават і ў новых.
Пра гэта я знаю
Ад Янкі суседа.
Сто пісем згубілася
У гэтае лета.
Ну што за халера
Напала на скрыні?
Мо ўсё ж вінаваты
Тут колер іх сіні?
Мы скрыні з суседам
Перафарбавалі.
Ды ў скрынях чырвоных
Таксама прапалі
Суседавы пісьмы,
Паштоўкі суседкі.
Мо скралі агенты
З кітайскай разведкі?
І хоць давяраю
Я скрыні той сіняй.
Не буду я спаць,
Як ля жонкі, ля скрыні
І пісьмы мае,
А ў іх вершы, паэмы,
Не будуць жа ведаць
Ніякай праблемы.

**Вінцук Асьцюк**

# НІЎКА

МЫТНЯ
НАВОШТА, НАВОШТА? ВОСЬ ГРОШАЙ ЗАРАБЛЮ І КУПЛЮ САБЕ НАРМАЛЬНУЮ ТУРЫСТЫЧНУЮ ПУЦЁЎКУ Ў КІТАЙ!..
КІТАЙ

Мал. А. Папова

## NIE ODDAMY Związku Radzieckiego!

Nie oddamy Chinom Związku
Radzieckiego!
Nie oddamy Pekinowi Kraju Rad!
Słuchaj, Wania, jeśli przyjdzie co do czego,
My czuwamy, ty spokojnie możesz spać!

Tam za wielkim stepem miasto jest
ogromne,
Straszny Chińczyk tam koszmarne szczerzy
kły.
Żółty człowiek zrobi nocą wielką bombę,
By czerwonym z żalu ciekły gorzkie łzy!

Nie oddamy Chinom Związku
Radzieckiego...

Nikt nie zrobi z Moskwy pólka ryżowego,
I nie będzie nikt na Kremlu sake chlał.
Wy, Rosjanie, już nie uczcie się chińskiego
Język polski w zupełności starczy wam!

Nie oddamy Chinom Związku
Radzieckiego...

Mieczysław ROSIEŃSKI

*Гэтую песню надрукаваў тыднёвік "Głos znad Niemna" ад 26 лютага 1995 г., які выдаецца Саюзам палякаў на Беларусі.*

## ІДЭАЛ

Не кумімся з плачом
Мы — служкі апетыту,
Паклоны б'ём лычом
Паўнюткаму карыту.

Наш дужы сальны дух
Трымаюць гной і жыжа.
Нам даражэй катух
За ўсю красу Парыжа.

Хапае нам святла
З дзір, што пацук павыеў.
Каб мешанка была,
Каб налілі памыяў!

Сыцець ва ўсе часы
Нам запаведзь святая.
У свіныя галасы
Катух прагрэс вітае.

Каб гной даваў цяпло,
Каб не звялося храп'е!
Нам ці на дно ў кубло,
Ці на патэльню трапіць!

**Рыгор Барадулін**

## СЕНТЭНЦЫІ

Жанчына — брыяльнт на фоне прыроды.

* * *

Не зразумеўшы слова „люблю”, не гавары — „ненавіджу”.

* * *

У золата і ў крыві аднолькавы бляск.

* * *

Жыццё ледзь зацвіце, а ўжо адцвітае.

* * *

У кожнага хопіць смеласці, каб струсіць.

**Барыс Руско**

## Смех у санаторыі

— Якая розніца між камедыяй і трагедыяй?
— Камедыя тады, калі маеш дзяўчыну і не маеш хаты, трагедыя — калі маеш хату, а не маеш дзяўчыны.

* * *

— Даражэнькая, што ты зварыла сёння на абед?
— Я і сама не знаю: з кансервавай банкі адклеілася этыкетка.

* * *

У судзе:
— Ці ваша жонка мела зачэпку, калі біла вас апошнім разам?
— Зачэпкі не мела, толькі качалку.

* * *

Жонка да мужа, гледзячы ў тэлевізар:
— Паглянь толькі, як ён яе любіць.
— А ці ты ведаеш, колькі яму за гэта плацяць?

* * *

— Скажы, даражэнькі, што я — скарб для цябе.
— Ой, не; бо яшчэ паверу і буду мусіў закапаць.

* * *

Гутараць два сябры:
— Калі ўбачыш на вуліцы прыгожую дзяўчыну, на якую дэталь перш-наперш звяртаеш увагу?
— Ці паблізу няма маёй жонкі.

* * *

— Які мужчына наймудрэйшы?
— Ксёндз: дае шлюбы, а сам не жэніцца.

* * *

— Ці ваш сын самастойны?
— Ужо не; год таму ажаніўся.

* * *

— Для жанатага мужчыны існуюць два найважнейшыя месцы ў свеце.
— Якія?
— Адно, дзе знаходзіцца яго жонка, а другое, дзе яе няма.

* * *

Гутараць два сябры:
— Учора пасварыўся я з жонкаю.
— І за кім было апошняе слова?
— За мно..
— А што ты такое сказаў?
— Сказаў: „Ну добра, добра; купляй ужо сабе гэтыя туфлі”.

* * *

— Ці быў ты ўжо на Адрыятыцы?
— Быў.
— А на Чорным моры?
— Таксама быў.
— А на Канарскіх астравах?
— Там таксама быў.
— І скажы: дзе найлепш адпачываў?
— Нідзе: усюды быў з жонкаю і дзяцьмі.

* * *

— Прашу цябе, дарагая, не рубай дроў, калі я на панадворку.
— А чаму гэта табе перашкаджае?
— Не магу глядзець, як ты мучышся.

**Даслаў**
**Андрэй Гаўрылюк**

## САРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

Даражэнькія бабанькі! Хачу вас папярэдзіць, каб не зрабілі такую памылку, як я. Не пускайце сваіх мужыкоў нікуды — ні ў Бельгію, ні ў Галандыю, ні ў ніякую іншую там Амерыку! Не верце іхным словам, што сядзяць там, каб зарабляць грошы на вас і на вашых дзетак. Мала які мае такое сумленне, каб думаць пра нас, будучы ад нас далёка і „на свабодзе”.

А я, дурань, верыла свайму. Прыязджаў з гэтай сваёй Бельгіі разы чатыры ў год. І ўсё казаў, што яшчэ „стабілізуецца”. Нібы шукаў працу, пасля змяняў яе штораз, шмат плаціў за яду і харчаванне. Так што грошай пакідаў мне вельмі мала. А я ж, само падумай, заставалася ў Беластоку з траіма дзецьмі. А як жа пражывеш сёння ўчацвярых за тры з паловай мільёна?! Столькі я зарабляю, працуючы ў канцылярыі. Дзякуй Богу, што бацькі мае добрыя і не магу сказаць, што бедныя. Прадалі цяпер зямлю пад будоўлю, дык купілі мне самаход, ды і грошай — 100 мільёнаў (старых, вядома) — дакінулі. Дакладаю да сваіх заробкаў і так неяк цягнем.

Пазваніла мужу і, дурань, сказала яму пра гэта. Дык вырашыў, відаць, што нам ужо нічога-нічагуткі не трэба. Такія багатыя! А тут дзеці растуць. Старэйшы сын ужо ў ліцэі. То штаны, то боцікі, то куртку купіць трэба. З маімі заробкамі ж не падскочыш. Ды і жыццё якое даражэзнае!

Ну, дык брала я, брала бацькоўскія грошы пакрысе, а перад Раством дык іх ужо зусім не шкадавала — муж прыязджае, напэўна нешта ж прывязе. Паапранала дзяцей, бо людзі смяюцца: бацька працуе ў Бельгіі, а ходзяць галышамі! Падрыхтавалася я як след да свят, усім (і мужу) накупіла падарункаў (ад св. Мікалая) пад ёлку. Ну, не спадзявалася я, што здарыцца так, як здарылася.

Мы яго сустракалі ўсёй сям'ёй з радасцю, надзеяй. А ён таксама быў вясёлы, усміхаўся. На свята мы назапрашалі гасцей — сваякоў і знаёмых. Вядома, муж прыехаў! Цудоўна правялі святочныя дні, а пасля свят я спыталася, колькі ён прывёз нам грошай. Божачкі, што чаўплося! Лепш бы я ўжо не пачынала. Чаго я толькі не пачула ў адказ! Сумна мне было, я плакала, але не было на яго моцных. Не даў ні граша, матывуючы факт тым, што яму не хапае на ўласныя патрэбы. На заканчэнне ляснуў дзвярыма і выехаў на вёску да сваіх бацькоў.

Што мне было рабіць? Ізноў прасіць міласці ў маці?! У мяне ўжо на гэта сумлення не хапае. Сустрэлася я з жанчынай, якая працуе ў тым жа горадзе, што і мой муж. Многае мне расказала. Кажа, што ён там ні жонкай, ні дзецьмі не пераймаецца. Працуе і зарабляе, але жыве так, як свабодны чалавек. Сустракаецца з сябрамі, выпівае, ходзіць на дыскатэкі(?!), наняў някепскую кватэру. За ўсё трэба плаціць! Дык нічога дзіўнага, што грошай няма, „супакоіла” яна мяне.

Заўсёды мне здавалася, што я — цвёрды чалавек, але тут не вытрымала. Падвялі нервы. Калі муж вярнуўся ад бацькоў, выставіла яго рэчы на калідор. Такога жыцця мне не трэба! Ці добра я зрабіла?

**Каця**

Каця! Мо не трэба было так радыкальна. Мо лепш было б прымусіць мужа, каб вярнуўся дахаты назусім, а не ў госці. Урэшце ж выязджаў нібы дзеля таго, каб зарабіць на сям'ю, а не на „ўласныя патрэбы”. Прывыкне да лёгкага, вальготнага жыцця, дык і не адвучыш!

Шкада, што ты так лёгка пазбавіла дзяцей бацькі. Пэўна вырашыла, што як мае быць такі, дык хай зусім яго не будзе, але хто ж пойдзе на трое чужых дзяцей...

**Сэрцайка**